● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

18 жніўня 1998 г. аўторак, № 161 (23512)




# ЗВЯЗДА

## БУЛЬБА ТАННЕЕ, КАЛІ ЯЕ ШМАТ КАПАЮЦЬ

**По прагнозах спецыялістаў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, маркуемы кошт бульбы ўвосень, з пачаткам масавай уборкі «другога хлеба», складзе ад 7 да 10 тысяч рублёў за кілаграм. Больш нізкія цэны чакаюцца ў абласцях, дзе ўмовы надвор'я не нанеслі пасевам асаблівай шкоды, высокія — дзе ўгоддзі атрымалі адчувальны ўрон. Напрыклад, сёлета самы вялікі кошт бульбы можа быць на Віцебшчыне — 9-10 тысяч рублёў за кілаграм.**

Большасць гаспадарак ужо пачалі ўборку ранняй бульбы. У цэлым па краіне ўбрана 778 гектараў плошчаў, накапана 11,8 тысяч тон клубняў. У сярэднім ураджайнасць складае 151 цэнтнер з гектара (мінімальная на Гомельшчыне — 134 цэнтнеры з гектара, максімальная на Гродзеншчыне — 178 цэнтнераў з гектара). Практычна ўся накапаная бульба ідзе ў гандаль, для грамадскага харчавання, хаця пакрысе пачынаюць выконваца і пастаўкі за межы краіны. Сёлета сярод першых спажыўцоў беларускай бульбы — Расія і Малдова. Пасля ўсіх паставак у гандаль, на прамперапрацоўку, у насенны фонд, на кармавыя мэты Беларусь рэальна можа экспартаваць ад 60 да 100 тысяч тон бульбы, зазначылі ў міністэрстве. Дарэчы, масавая ўборка «другога хлеба» пачнецца сёлета ў традыцыйныя тэрміны — з пачатку верасня, адразу пасля ўборкі збожжавых. Нягледзячы на тое, што зараз плошча пад бульбай на 13,7 тысячы гектараў меншая, чым летась, яе валавы збор у грамадскім сектары чакаецца на ўзроўні 1,1— 1,2 млн. тон, што болей мінулагодняга. Тады ўраджайнасць складала ў сярэднім 95 цэнтнераў з гектара, цяпер пры масавай уборцы яна чакаецца на ўзроўні ў 110—115 цэнтнераў з гектара.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЦЭНЫ НА ГАРЭЛКУ ЗНОЎ ПАДНЯЛІСЯ

Не вельмі прыемную навіну атрымалі ў канцы мінулага тыдня аматары «зялёнага змія». У панядзелак кошт моцнага празрыстага напою за ўсіх крамах краіны падрос на 10 працэнтаў. У міністэрстве гандлю нам адказалі, што для іх гэта не навіна. Грашовую палітыку вядзе міністэрства эканомікі. Гэтым ведамствам дазвалялася павялічваць кошт тавараў не болей чым на 2 працэнты ў месяц. Зараз кошт гарэлкі ў залежнасці ад якасці і формы бутэлькі (з закруткай або не) вагаецца ад 75 да 82 тысяч рублёў. Мабыць, мы і не заўважылі, як мінулі 5 прыгожых месяцаў, пасля якіх цэны на горкую аж пачырванелі. Мо зараз будзем піць меней?

**Сяргей КУРКАЧ.**



## ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ ГАЛОЎНАГА БАНКІРА КРАІНЫ

Як паведаміла ў БЕЛТА прэс-служба кіраўніка нашай дзяржавы, 17 жніўня Аляксандр Лукашэнка прыняў са справаздачай старшыню праўлення Нацыянальнага банка Пятра Пракаповіча.

Як прадстаўнік прэзідэнта ў Брэсцкай вобласці П. Пракаповіч далажыў аб ходзе ўборачных работ, аб сацыяльна-эканамічным развіцці гэтага рэгіёну і праінфармаваў аб сітуацыі ў Ганцавіцкім, Столінскім, Лунінецкім і некаторых іншых раёнах, якія найбольш пацярпелі ад стыхійных бедстваў. Была прааналізавана работа кіраўнікоў аблвыканкама і райвыканкамаў на ўборцы ўраджаю.

Прэзідэнт указаў на неабходнасць узмацніць тэмпы сельскагаспадарчых работ і абавязкова выканаць план здачы збожжа дзяржаве. Ён даручыў у найкарацейшыя тэрміны распрацаваць праграму вываду Брэсцкай вобласці на паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця 1990 года.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка далажыў таксама кіраўніку дзяржавы аб праводзімай грашова-крэдытнай палітыцы. Было адзначана, што яна накіравана на выкананне паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця на 1998 год і праграмы да 2000 года, зацверджаных прэзідэнтам. П.Пракаповіч адзначыў, што Нацбанк забяспечыў крэдытаванне дзяржаўных праграм, што ажыццяўляюцца меры па стабілізацыі курсу беларускага рубля.

Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў палепшыць работу Нацыянальнага банка, накіраваную на забеспячэнне ўстойлівага эканамічнага росту і стабілізацыю курсу беларускага рубля.

**БЕЛТА.**



Франц ЗМІЧАРОЎСКІ і Ігар АЛЕКСІН прыводзяць у парадак электрычныя рухавікі і абсталяванне саўгаса «Гарадзец» Шаркаўшчынскага раёна. Працы ім хапае, і спраўляюцца яны найлепшым чынам.

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ДА КАНЦА ГОДА РАСІЙСКІ РУБЕЛЬ АДПУШЧАНЫ «Ў ПЛАВАННЕ».

### Рубель не вытрымаў уціску на фінансавым рынку Расіі

**Наўрад ці меркавалі большасць расіян, што крызіс, які ахапіў дастаткова ўчэпіста на мінулым тыдні фінансавыя рынкі гэтай краіны, настолькі сур'ёзна адаб'ецца на фінансавай палітыцы.**

Апошнім часам там да «чорных аўторкаў», так бы мовіць, прызвычаіліся. Тым не менш пачатак тыдня паказаў, што ўраду Расіі гэтыя падзеі не надалі аптымізму: прэм'ер краіны абвясціў аб тым, што сітуацыя павінна быць узята пад кантроль. Што гэта азначае, думаю, усім уж вядома. Каб захаваць твар краіны, расіянам прыйшлося пайсці на комплекс мер па недапушчэнню і надалейшага раскачвання і пагаршэння абставін. Папершае, Цэнтрабанк пераходзіць цяпер да правядзення палітыкі плаваючага курса ў рамках новых межаў валютнага калідора — ад 6 да 9 рублёў за долар. Па сутнасці, там пайшлі на так званую мяккую дэвальвацыю рубля. Як бы там не было, людзі, якія паверылі ў расійскі рубель і яго адносную непахіснасць, зараз атрымалі нагоду для таго, каб задумацца.

Па-другое, прапанавана рэструктурызацыя ўнутранага доўгу дзяржаўных каштоўных папер з тэрмінамі пагашэння да 31 снежня 1999 года, якія планаваліся да пагашэння да канца 1998 года і на працягу наступнага. Карацей, тэрміны пагашэння расцягнуты. Каб пазбегнуць адмоўнай даходнасці тых жа ДКА ў доларавым выражэнні, Расіі трэба будзе прыкласці вялікія намаганні. Наогул, сітуацыя з каштоўнымі паперамі на фінансавым рынку, крызіс, па словах аднаго з субяседнікаў карэспандэнта «Звязды» прафесара Міхаіла Кавалёва, вельмі падобны на спекулятыўна-псіхалагічную атаку па дэстабілізацыі фінансавага рынку і курса валюты. Магчыма, зацікаўленым у крызісе асобам не падабаецца ніжняя кропка ў кошце расійскіх акцыяніраваных прамысловых прадпрыемстваў (напрыклад, той жа «Роснафць»)? Не выключана, што менавіта дадная пазіцыя і выклікала ўзрушэнні ў суседняй дзяржаве, якія прынясуць «дывідэнды» пэўным інвестарам.

Між іншым, сітуацыя ў Расіі дае і нам пэўныя падставы для роздуму. Напрыклад, як лічыць Міхаіл Кавалёў пры прыцягненні замежных партфелеў інвестыцый трэба быць вельмі асцярожнымі, і кантраляваць і рэгуляваць іх колькасць, інакш спекулятыўны адток гэтых партфеляў можа ў адну хвіліну паменшыць кошт усіх асноўных фондаў. Перавагу трэба аддаваць прамым інвестыцыям.

І нарэшце, трэцім пунктам паміж урад і Цэнтрабанк Расіі на 90 дзён аб'явілі мараторыы на выплаты сваіх рэзідэнтаў па абавязацельствах перад міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі.

Якіх жа страт чакаць нам у сувязі з развіццём падзей у Расіі? Банкаўскія спецыялісты мяркуюць, што асаблівага ўплыву на рэспубліку ўсё вышэйзначанае не акажа. Мяккая дэвальвацыя расійскага рубля Беларусь не палохае: запасаў расійскіх рублёў у нашых банках не было, у Нацыянальным банку тым больш. Адзіны сцэнарый, які можа быць магчымы, — узмацненне жорсткасці ў адносінах да запазычанасці Беларусі перад Расіяй. Аднак і тут наўрад ці трэба чакаць змен: расіяне павінны разумець, што ў нашай рэспубліцы ўзяць няма чаго, пакольі грошы на выплаты адсутнічаюць.

Што датычыцца курса беларускага рубля і расійскага, то, як жартаўліва заўважыў адзін з банкіраў, яны будуць цяпер падаць паралельна. Не пацерпіць і банкаўская сістэма рэспублікі, дзе ў ДКА Расіі сумы невялікія.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

*ХАРЧОВАЯ БЯСПЕКА КРАІНЫ*

## У МІНІСТЭРСТВЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ХАРЧАВАННЯ ПЕРАКАНАНЫ: КАТАКЛІЗМАЎ НА ЎНУТРАНЫМ ПРАДУКТОВЫМ РЫНКУ НЕ ЧАКАЕЦЦА

***З просьбай пракаменціраваць магчымыя перспектывы развіцця падзей на прадуктовым рынку краіны мы звярнуліся да намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь Аляксандра ПАПКОВА.***

— Перш за ўсё адназначна хацеў бы заўважыць, што ніякіх катаклізмаў, ніякіх асаблівых праблем на ўнутраным прадуктовым рынку не чакаецца. Што датычыць увозу імпартных прадуктаў, то ніякіх абмежаванняў тут з нашага боку не існуе. Гандаль — і дзяржаўны, і прыватны — сам вырашае, з чым, з прадуктамі чыёй вытворчасці яму працаваць. Умовы дыктуе, як і павінна быць, спажывец, яго пакупныя здольнасці. Пагадзіцеся, так яно паўсюдна. Іншая справа, што нас цікавяць санітарныя нормы, якасць замежных прадуктаў і г. д.

**— Аляксандр Міхайлавіч, а што датычыць насычэння ўласнымі прадуктамі ўнутранага рынку...**

— І тут усё на сённяшні дзень адбываецца планамерна. Існуе дзяржаўны заказ, які фарміруецца ў адпаведнасці з патрэбамі. Дарэчы, што, у прыватнасці, датычыць мяса-малочнай прадукцыі, то ў параўнанні з леташнім годам адбыўся відавочны рост. Па мясу — 113,8 працэнта, па малочнай прадукцыі — 134 працэнты. Хіба настолькі істотныя змены могуць адбыцца ў запатрабаваннях спажыўца? Наўрад ці. Прычына зразумелая — актывізаваліся «чаўнакі».

**— Але ж вырас і экспарт прадуктаў харчавання.**

— Так, вырас на 18 працэнтаў. Але лічбы, што я вам называў, датычаць працэнтнага росту толькі ў насычэнні ўнутранага рынку. А што да экспарту, то мы вымушаны ісці на яго, бо тым самым зарабляем валюту, дзякуючы гэтаму здольныя набыць тое, што для нашага АПК уяўляе дэфіцыт. І калі пытанне вырашаецца станоўча, то гэта ж таксама, пагадзіцеся, уплывае на забеспячэнне прадуктовай бяспекі краіны. Завозім сланечнік, бялковыя культуры, сродкі абароны раслін, асобныя віды мінеральных угнаенняў, тыя, вытворчасць якіх у Беларусі не наладжана.

**— Экспартам прадуктаў харчавання займаюцца суб'екты гаспадарання з рознымі формамі ўласнасці.**

— Сапраўды так. І згаданыя 18 працэнтаў прыросту датычаца і прыватных, недзяржаўных структур. Я разумею, што вы хацелі б спытацца, што мы робім дзеля таго, каб не здарылася вялікага адтока вывазу... Усяляк патрабуем ад вытворцаў займацца экспартным гандлем без пасрэднікаў. Што да хуткаліквідных тавараў, то зноў жа прадаём іх дзеля набыцця ў сваю чаргу тавараў так званага крытычнага імпарту, я іх ужо часткова называў. І ўвесь гэты рух знаходзіцца пад пільным кантролем дзяржавы. Ды і, паўтаруся, першы клопат вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі — дастатковае задавальненне патрэб насельніцтва менавіта на ўнутраным рынку.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ НАМАЛОТЫ ЎЖО НАБЛІЖАЮЦЦА ДА МІЛЬЁНА ТОН

Абяцаную тону збожжа на кожнага жыхара вобласці хлебаробы Гродзеншчыны ўсё ж выканаюць, нягледзячы нават на неспрыяльнае надвор'е — па апошніх даных намалочана ўжо каля 850 тысяч тон. Прычым рэгіёнам своечасова выконваецца і дзяржзаказ — тут гаспадаркамі ўжо прададзена 173 тысячы тон збажыны (67 працэнтаў планавага паказчыка).

Усяго ж у Гродзенскай вобласці апрацавана 270 тысяч гектараў хлебных палетках. Гэта 66 працэнтаў агульнай плошчы. У некаторых раёнах (Гродзенскі, Бераставіцкі, Ваўкавыскі, Дзятлаўскі, Шчучынскі) уборачная набліжаецца да завяршэння.

Ураджайнасць у рэгіёне трымаецца на ўзроўні 32 цэнтнеры з гектара. Гэта самы высокі паказчык на Беларусі. У шэрагу раёнаў ураджайнасць амаль у два разы вышэй, чым увогуле па вобласці — так, у гаспадарках «Кастрычнік» і «Свіслач» Гродзенскага раёна паказчык складае 62 і 60,5 ц/га адпаведна.

Тэмпы ўборкі на Гродзеншчыне трымаюцца на ўзроўні 3 працэнтаў. Калі надвор'е палепшыцца, то праз 7-10 дзён жніво ў рэгіёне павінна завяршыцца.

Ужо зараз тыя раёны, якія выходзяць на «фінішную прамую» уборачнай, накіроўваюць сваю тэхніку ў паўночную частку вобласці, дзе адпаведныя работы яшчэ толькі на адзнацы ў 50 працэнтаў.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**



## «Звязда» едзе ў Ашмяны

20 і 21 жніўня ў Ашмянах і Ашмянскім раёне праводзіцца «выязная прыёмная» газеты «Звязда», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, міністэрстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, аховы здароўя і сацыяльнай абароны. «Выязная прыёмная» пачне працаваць 20 жніўня ў 8 гадзін у калгасе «Кастрычнік» Муравана-ашмянкоўскага сельскага савета, а ў 17 гадзін сустрэчы з насельніцтвам пройдуць у будынку райвыканкама. 21 жніўня ўдзельнікі «выязной прыёмнай» з 8 гадзін раніцы будуць знаходзіцца ў калгасе імя Крупскай Граўжышкоўскага сельскага савета.

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ГРАМАДЗЯНСКІ ПРАЦЭСУАЛЬНЫ КОДЭКС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)**

Указаныя ў частцы першай гэтага артыкула дзеянні ў судах касацыйнай і наглядной інстанцый ажыццяўляе старшынствуючы па справе — старшыня суда, яго намеснік або адзін з суддзяў.

Артыкул 141. Пярэчанні супраць дзеянняў суддзі (старшынствуючага)

У выпадку пярэчання каго-небудзь з удзельнікаў працэсу супраць дзеянняў суддзі (старшынствуючага) гэтыя пярэчанні заносяцца ў пратакол судовага пасяджэння і вырашаюцца ім на месцы або ў дарадчым пакоі».

42. У частцы трэцяй артыкула 144 слова «суду» замяніць словам «суддзі».

43. У частцы шостай артыкула 145 словы «ста рублёў» замяніць словамі «дзесяці мінімальных заработных плат».

44. У частцы першай артыкула 152, артыкуле 153 словы «30 рублёў» замяніць словамі «пяці мінімальных заработных плат».

45. Частку другую артыкула 154 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Калі выкліканы сведка не з'явіўся ў судовае пасяджэнне па прычынах, прызнаных суддзёй няўважлівымі, ён падвяргаецца штрафу ў памеры да пяці мінімальных заработных плат, а пры няяўцы па паўторнаму выкліку — прымусоваму прыводу. За злоснае ўхіленне ад яўкі ў суд сведка нясе адказнасць па артыкулу $166^1$ Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях».

46. У артыкуле 157 словы «старшынствуючым або членам суда (суддзёй)» замяніць словам «суддзёй».

47. Частку другую артыкула 184 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Пасля падпісання рашэння суддзя вяртаецца ў залу судовага пасяджэння, дзе аб'яўляе рашэнне. Затым суддзя растлумачвае змест рашэння, парадак і тэрмін яго абскарджання і аб'яўляе судовае пасяджэнне па дадзенай справе закрытым».

48. Пункт 3 часткі трэцяй артыкула 185 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«3) назва суда, прозвішча і ініцыялы суддзі, які разглядае справу».

49. Часткі другую і трэцюю артыкула 187 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«У выпадку згоды з заўвагамі суддзя, які разглядаў справу, засведчвае іх правільнасць і далучае іх да пратакола.

Пры нязгодзе з заўвагамі суддзя выносіць матываванае вызначэнне аб іх адхіленні. Заўвагі на пратакол і вызначэнне далучаюцца да пратакола судовага пасяджэння».

50. Артыкул 188 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 188. Парадак пастановы рашэння

Пастанова суда першай інстанцыі, якой справа вырашаецца па сутнасці, выносіцца суддзёй у дарадчым пакоі пасля разбору справы ў форме судовага рашэння.

Прысутнасць іншых асоб у дарадчым пакоі не дапускаецца.

Суддзя выносіць рашэнне імем Рэспублікі Беларусь».

51. Артыкул 190 выключыць.

52. Частку другую артыкула 191 выключыць.

53. Артыкул 193 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 193. Выкладанне судовага рашэння

Рашэнне выкладаецца ў пісьмовым выглядзе і падпісваецца суддзёй.

Выпраўленні ў рашэнні павінны быць агавораны і падпісаны суддзёй».

54. У частцы шостай артыкула 194 словы «ў памеры ад 100 да 200 рублёў, калі муж і жонка знаходзяцца ў першым шлюбе, і ад 200 да 300 рублёў, калі муж або жонка знаходзіцца ў паўторным шлюбе» замяніць словамі «ў памеры, устаноўленым заканадаўствам».

55. У артыкуле 198:

у частцы першай словы «не дазволенаму судом (суддзёй)» замяніць словамі «не дазволенаму ім»;

частку другую выключыць.

56. У частцы шостай артыкула 210 слова «суда» выключыць.

57. У пункце 3 артыкула 211 і пункце 1 артыкула 212 слова «СССР» замяніць словамі «Рэспублікі Беларусь».

58. У артыкуле 220 словы «Саюза ССР і» выключыць.

59. У артыкуле 221, частцы першай артыкула 225, частцы другой артыкула 239, частцы першай артыкула 257, частках трэцяй і чацвёртай артыкула 296, пункце 1 артыкула 313, частцы першай артыкула 324, частцы трэцяй артыкула 326, частцы другой артыкула 330, частцы другой артыкула 336, артыкулах 343, 345 слова «народны» ў адпаведным склоне выключыць.

60. У артыкуле 221, частцы другой артыкула 222, артыкулах 223, 250, частцы першай артыкула 257, частцы другой артыкула 357 словы «выканаўчы камітэт мясцовага Савета народных дэпутатаў» у адпаведным склоне замяніць словамі «мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы» ў адпаведным склоне.

61. У частцы першай артыкула 225, частцы трэцяй артыкула 257 слова «СССР» замяніць словамі «Рэспублікі Беларусь».

62. У частцы першай артыкула 226, частцы першай артыкула $227^3$, частцы першай артыкула 234, артыкуле 260 словы «Саюза ССР і» выключыць.

63. У частцы трэцяй артыкула $227^4$:

слова «народны» выключыць;

пасля слова «суд» дапоўніць словамі «міжгарнізонны ваенны суд»;

пасля слова «работы» дапоўніць словам «(службы)».

64. Артыкул 228 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 228. Падача заявы

Заява аб спагнанні з грамадзян нядоімкі па рэспубліканскіх і мясцовых падатках, абавязковаму страхаванню падаецца адпаведна інспекцыяй Дзяржаўнага падатковага камітэта, страхавымі арганізацыямі па абавязковаму страхаванню па месцы жыхарства нядоімшчыка або па месцы знаходжання яго маёмасці».

65. У частцы першай артыкула 230, артыкуле 232 словы «Саюза ССР» замяніць словамі «Рэспублікі Беларусь».

66. У артыкуле 252 словы «выканаўчыя камітэты пасялковых, сельскіх Саветаў народных дэпутатаў» замяніць словамі «мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы».

67. Частку першую артыкула 269 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Касацыйная скарга або касацыйны пратэст падаюцца на рашэнні раённых (гарадскіх), міжгарнізонных ваенных судоў у судовую калегію па грамадзянскіх справах адпаведнага абласнога, Мінскага гарадскога, Беларускага ваеннага судоў; на рашэнні па грамадзянскіх справах абласнога, Мінскага гарадскога судоў — у судовую калегію па грамадзянскіх справах Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь; на рашэнні Беларускага ваеннага суда — у Ваенную калегію Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь».

68. У частцы першай артыкула $280^1$:

пасля слова «гарадскі» дапоўніць словамі «Беларускі ваенны»;

словы «суд павінен» замяніць словамі «суды павінны».

69. Частку першую артыкула 295 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Пратэсты маюць права прыносіць:

1) Старшыня Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь, Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь, іх намеснікі — на рашэнні, вызначэнні і пастановы любога суда і суддзяў Рэспублікі Беларусь, за выключэннем пастаноў Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь;

2) старшыня абласнога, Мінскага гарадскога судоў, пракурор вобласці, горада Мінска, іх намеснікі — на рашэнні і вызначэнні суддзяў раённых (гарадскіх) судоў і вызначэнні судовай калегіі па грамадзянскіх справах абласнога, Мінскага гарадскога судоў, якая разглядала справу ў касацыйным парадку;

3) Старшыня Беларускага ваеннага суда, Беларускі ваенны пракурор, іх намеснікі — на рашэнні і вызначэнні суддзяў міжгарнізонных ваенных судоў і вызначэнні судовай калегіі па грамадзянскіх справах Беларускага ваеннага суда».

70. У артыкуле 296:

дапоўніць артыкул пасля часткі чацвёртай новай часткай наступнага зместу:

«Судовая калегія па грамадзянскіх справах Беларускага ваеннага суда разглядае справы па пратэстах на рашэнні і вызначэнні суддзяў міжгарнізонных ваенных судоў»;

частку пятую лічыць часткай шостай;

у частцы шостай:

словы «Пракурору Беларускай ССР», «Пракурора Беларускай ССР» замяніць адпаведна словамі «Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь», «Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь»;

словы «Генеральнага Пракурора СССР» выключыць.

71. У артыкуле 313:

у пункце 6 словы «органаў арбітражу» замяніць словамі «гаспадарчых судоў»;

пункты 10 і 15 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«10) рашэнні Міжнароднага арбітражнага суда пры Беларускай гандлёва-прамысловай палаце і Марской арбітражнай камісіі Міжнароднага арбітражнага суда пры Беларускай гандлёва-прамысловай палаце»;

«15) пастановы падатковай інспекцыі ў прадугледжаных законам выпадках».

72. У артыкуле 314:

у пункце 1 словы «рашэнняў Арбітражнага суда пры Гандлёва-прамысловай палаце СССР і арбітражаў, якія спецыяльна ўтвараюцца для разгляду асобных спраў, рашэнняў іншаземных судоў» замяніць словамі «рашэнняў Міжнароднага арбітражнага суда пры Беларускай гандлёва-прамысловай палаце Рэспублікі Беларусь і Марской арбітражнай камісіі Міжнароднага арбітражнага суда пры Беларускай гандлёва-прамысловай палаце»;

у пункце 3 словы «органаў арбітражу», «арбітражу» замяніць словамі «гаспадарчых судоў»;

пункты 4 і 9 выключыць.

73. У частцы трэцяй артыкула 317 словы «30 рублёў» замяніць словамі «пяці мінімальных заработных плат».

74. У частцы першай артыкула 327:

словы «У адпаведнасці з артыкулам 55 Асноў грамадзянскага судаводства Саюза ССР і саюзных рэспублік» выключыць;

слова «СССР» замяніць словамі «Рэспублікі Беларусь».

75. У пункце 3 артыкула 332, пункце 2 артыкула 333, пункце 2 часткі першай артыкула 334 слова «СССР» замяніць словамі «Рэспублікі Беларусь».

76. У пунктах 1 і 2 часткі першай артыкула 335 словы «судом або» выключыць.

77. У артыкуле 343 словы «дзяржаўных працоўных ашчадных касах і ў Дзяржаўным банку СССР» замяніць словамі «банках Рэспублікі Беларусь».

78. У частцы першай артыкула 348 словы «выканаўчага камітэта пасялковага або сельскага Савета народных дэпутатаў» замяніць словамі «мясцовага выканаўчага і распарадчага органа».

79. У артыкуле 352:

у частцы трэцяй словы «Дзяржаўнага банка СССР» замяніць словамі «Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь»;

у частцы чацвёртай словы «бліжэйшую дзяржаўную працоўную ашчадную касу» замяніць словамі «аддзяленне Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк».

80. У артыкуле 354:

у частцы трэцяй словы «Дзяржаўнага банка СССР» замяніць словамі «Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь»;

у частцы чацвёртай словы «дзяржаўнымі працоўнымі ашчаднымі касамі» замяніць словамі «аддзяленнямі Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк».

81. У артыкуле 371 словы «30 рублёў» замяніць словамі «дзесяці мінімальных заработных плат».

82. Артыкул 372 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 372. Выкананне судовых рашэнняў, не звязаных з перадачай грашовых сум

Калі даўжнік не выканае ва ўстаноўлены суддзёй або судовым выканаўцам тэрмін рашэнне, не звязанае з перадачай грашовых сум, ён можа быць падвергнуты штрафу ў памеры ад пяці да дваццаці мінімальных заработных плат з назначэннем новага тэрміну выканання рашэння.

Штраф накладаецца вызначэннем суддзі па прадстаўленню судовага выканаўцы. Вызначэнне можа быць абскарджана або апратэставана ва ўстаноўленым парадку.

У выпадку невыканання даўжніком рашэння і пасля накладання штрафу, калі яно можа быць выканана іншай асобай, суддзя са згоды спагнальніка мае права ўпаўнаважыць іншую асобу або самога спагнальніка выканаць рашэнне за кошт даўжніка.

Пры немагчымасці выканання рашэння іншай асобай або спагнальнікам выкананне праводзіцца судом.

Калі даўжнік наўмысна не выканае ва ўстаноўлены суддзёй новы тэрмін судовае рашэнне, суддзя выносіць вызначэнне (пастанову) аб узбуджэнні крымінальнай справы ў адносінах да службовых асоб і накіроўвае матэрыялы органам следства».

83. Назву главы 30 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Глава 30. Накіраванне спагнанняў на грашовыя сродкі і маёмасць дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў».

84. Артыкулы 375, 376, 377, 378, 379, 380 і 381 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 375. Выкананне рашэнняў у адносінах да дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў

Выкананне рашэнняў у адносінах да дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў праводзіцца па правілах гэтага Кодэкса з улікам выключэнняў і дапаўненняў, устаноўленых гэтай главой.

Дзяржаўныя ўстановы (арганізацыі), суб'екты гаспадарання і грамадскія аб'яднанні адказваюць па грашовых і маёмасных абавязацельствах у парадку, устаноўленым заканадаўствам.

Спагнанне сум па выканаўчых дакументах з дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў праводзіцца ў першую чаргу шляхам накіравання спагнання на грашовыя сродкі, якія знаходзяцца ў крэдытных установах, у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пры адсутнасці ў дзяржаўнай установы (арганізацыі), суб'екта гаспадарання і грамадскага аб'яднання грашовых сродкаў, дастатковых для пагашэння запазычанасці, спагнанне павінна быць накіравана па заяве спагнальніка на любую прыналежную даўжніку маёмасць, якая знаходзіцца на яго самастойным балансе.

Артыкул 376. Парадак накіравання спагнання на грашовыя сродкі

Спагнальнік ці па яго просьбе суд пры накіраванні спагнання на грашовыя сродкі даўжніка, якія знаходзяцца ў крэдытных установах, прадстаўляе выканаўчы дакумент непасрэдна ў адпаведную крэдытную ўстанову для прымусовага спісання сродкаў.

Чарговасць і парадак задавальнення патрабаванняў аб спагнанні з рахункаў, якія адкрываюцца ў крэдытных установах дзяржаўным установам (арганізацыям), суб'ектам гаспадарання і грамадскім аб'яднанням, устанаўліваюцца заканадаўствам.

Артыкул 377. Асаблівасці накіравання спагнання на маёмасць

У выпадках, прадугледжаных законам, не дапускаецца накіраванне спагнання на асобныя віды маёмасці дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў (прадметы культурнага прызначэння і інш.).

Дзяржаўная ўстанова (арганізацыя) адказвае па абавязацельствах маёмасцю, якая знаходзіцца ў яе распараджэнні. Пры недастатковасці ў дзяржаўнай установы (арганізацыі) сродкаў адказнасць па яе абавязацельствах нясе ўласнік адпаведнай маёмасці.

Артыкул 378. Змяненне спосабу выканання рашэння па патрабаванню спагнальніка

У выпадку невыканання рашэння з-за адсутнасці ў дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў грашовых сродкаў, дастатковых для пагашэння запазычанасці, спагнальнік мае права патрабаваць выдачы асобнага выканаўчага дакумента для прад'яўлення яго судоваму выканаўцу ў мэтах накіравання спагнання на маёмасць.

Судовы выканаўца накіроўвае спагнанне на маёмасць дзяржаўнай установы (арганізацыі), суб'екта гаспадарання і грамадскага аб'яднання з улікам сум, спагнаных у крэдытнай установе.

Артыкул 379. Іншы парадак спагнання запазычанасці

Пагашэнне запазычанасці па выканаўчых дакументах таксама можа быць ажыццёўлена ў парадку, устаноўленым Законам Рэспублікі Беларусь «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве» і іншымі законамі.

Артыкул 380. Рэалізацыя маёмасці

Рэалізацыя маёмасці дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў праводзіцца па правілах, устаноўленых артыкуламі 354—363 гэтага Кодэкса.

Артыкул 381. Парадак спагнання запазычанасці з дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў пры іх ліквідацыі

Пры ліквідацыі дзяржаўных устаноў (арганізацый), суб'ектаў гаспадарання і грамадскіх аб'яднанняў спагнанне запазычанасці праводзіцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, а ў выпадках спагнання такой запазычанасці па рашэнню суда, гаспадарчага суда — у парадку, устаноўленым гэтым Кодэксам, Гаспадарчым працэсуальным кодэксам Рэспублікі Беларусь для выканання судовых рашэнняў, ці ў парадку, вызначаным рашэннем суда па справе.

Пры ліквідацыі юрыдычнай асобы — даўжніка спагнанне па выканаўчых дакументах судоў накіроўваецца таксама на грашовыя сродкі, іншую маёмасць даўжніка, якая знаходзіцца ў якасці долі, паю ці на іншых падставах у складзе маёмасці трэціх асоб, а таксама на частку прыбытку, што належыць даўжніку ў выглядзе дывідэндаў ад трэціх асоб.

Даўгавыя абавязацельствы, не задаволеныя за нястачай маёмасці, лічацца пагашанымі.

З моманту выключэння прадпрыемства з Адзінага дзяржаўнага рэестра юрыдычных асоб яно лічыцца ліквідаваным, справа аб банкруцтве — спыненай, а даўжнік — свабодным ад даўгоў».

85. У артыкуле 382:

частку першую пасля слова «спагнанай» дапоўніць словамі «судовым выканаўцам»;

частку трэцюю выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Сумы, якія падлягаюць залічэнню ў даход дзяржавы, уносяцца судовым выканаўцам у рэспубліканскі бюджэт праз установы Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь».

86. У частцы сёмай артыкула 384 словы «Саюза ССР» замяніць словамі «Рэспублікі Беларусь».

87. У частцы першай артыкула 391 словы «у якой» замяніць словам «якому».

88. Частку трэцюю артыкула 393 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Правамоцным органам могуць быць устаноўлены ў адказ абмежаванні ў адносінах да грамадзян і юрыдычных асоб тых дзяржаў, у якіх дапускаюцца спецыяльныя абмежаванні грамадзянскіх працэсуальных правоў грамадзян і юрыдычных асоб Рэспублікі Беларусь».

89. У артыкуле 394 словы «савецкімі грамадзянамі» замяніць словамі «грамадзянамі Рэспублікі Беларусь».

90. У артыкуле $394^1$ словы «заканадаўствам Саюза ССР, а ў выпадках, не прадугледжаных заканадаўствам Саюза ССР, — зыходзячы з правіл падсуднасці, устаноўленых» выключыць.

91. Артыкулы 395 і 396 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 395. Іскі да замежных дзяржаў. Дыпламатычны імунітэт

Прад'яўленне іску да замежнай дзяржавы, забеспячэнне іску і накіраванне спагнання на маёмасць замежнай дзяржавы, якая знаходзіцца ў Рэспубліцы Беларусь, могуць быць дапушчаны толькі са згоды кампетэнтных органаў адпаведнай дзяржавы.

Акрэдытаваныя ў Рэспубліцы Беларусь дыпламатычныя прадстаўнікі замежных дзяржаў і іншыя асобы, указаныя ў адпаведных законах і міжнародных дагаворах Рэспублікі Беларусь, знаходзяцца пад юрысдыкцыяй суда Рэспублікі Беларусь па грамадзянскіх справах толькі ў межах, якія вызначаюцца нормамі міжнароднага права або міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

У выпадках, калі ў замежнай дзяржаве не забяспечваецца Рэспубліцы Беларусь, яе маёмасці або яе прадстаўнікам такая ж судовая недатыкальнасць, якая згодна з гэтым артыкулам забяспечваецца замежным дзяржавам, іх маёмасці або прадстаўнікам замежных дзяржаў у Рэспубліцы Беларусь, упаўнаважаным органам можа быць прадпісана ў адносінах да гэтай дзяржавы, яе маёмасці або прадстаўніка гэтай дзяржавы прымяненне мерапрыемстваў у адказ.

Артыкул 396. Выкананне судовых даручэнняў замежных судоў і зварот судоў Рэспублікі Беларусь з даручэннямі да замежных судоў

Суды Рэспублікі Беларусь выконваюць перададзеныя ім ва ўстаноўленым парадку даручэнні замежных судоў аб правядзенні асобных працэсуальных дзеянняў (уручэнне павестак і іншых дакументаў, правядзенне экспертызы, допыт бакоў, сведак і агляд на месцы і інш.), за выключэннем выпадкаў, калі:

1) выкананне даручэння супярэчыла б суверэнітэту або пагражала б бяспецы Рэспублікі Беларусь;

2) выкананне даручэння не ўваходзіць у кампетэнцыю суда.

Выкананне даручэнняў замежных судоў аб правядзенні асобных працэсуальных дзеянняў праводзіцца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Суды Рэспублікі Беларусь могуць звяртацца да замежных судоў з даручэннямі аб выкананні асобных працэсуальных дзеянняў.

Парадак зносін судоў Рэспублікі Беларусь з замежнымі судамі вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дагаворамі».

92. У артыкуле 397 слова «СССР» выключыць.

93. Артыкул 398 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Артыкул 398. Міжнародныя дагаворы

Калі міжнародным дагаворам Рэспублікі Беларусь устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў грамадзянскім працэсуальным заканадаўстве Рэспублікі Беларусь, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора».

**Артыкул 2.** Гэты Закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

10 ліпеня 1998 г., г. Мінск.
№ 186-З

**Пытанне наконт будаўніцтва АЭС шматграннае і закранае жыццёвыя інтарэсы (здароўе, матэрыяльны дабрабыт) усяго беларускага насельніцтва. З мэтай усебаковага яго вывучэння распараджэннем прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь створана спецыяльная камісія, што складаецца з 34 буйных спецыялістаў, якая да 31.12.1998 г. павінна даць сваё заключэнне. Прадстаўляем слова аднаму з членаў камісіі.**

# Слухаючы міфічныя расказы пра тое, што «АЭС — экалагічна самыя чыстыя, а эканамічна самыя выгадныя», МЫ МАРНА ГУБЛЯЕМ ЧАС

Спецыялісты, якія сцвярджаюць аб мэтазгоднасці будаўніцтва беларускай АЭС, выкарыстоўваюць некарэктныя доказы. Прааналізуем асноўныя з іх.

**ПЕРШЫ ДОКАЗ:** «АЭС... найбольш экалагічна чыстыя». Гэта сцвярджаецца на старонцы 31 «Асноўных накірункаў энергетычнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на перыяд да 2010 года», адобраных калегіяй Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь (пастанова КМ РБ № 168 ад 5.03.1996 г.). На жаль, асобныя спецыялісты пяра і слова бяздумна (на веру) падхопліваюць гэта сцвярджэнне і тыражуюць яго ў СМІ.

Хачу заўважыць, што аптымізму меркавання «АЭС... найбольш экалагічна чыстыя» не падзяляю не толькі я, але і пакупнікі і прадаўцы беларускіх базараў — дастаткова толькі ўспомніць аб розных даведках, якія дазваляюць продаж ягад, грыбоў, малака, мяса і інш.; не падзяляюць такога аптымізму таксама родныя і блізкія сябры загінуўшых і хворых па прычыне аварый на ядзерных рэактарах.

**ДРУГІ ДОКАЗ** беларускіх лабістаў інтарэсаў МАГАТЭ: «АЭС... найбольш эканамічна выгадныя» (тая ж старонка 31 названага дакумента).

Такі довад, мякка кажучы, чарговая няпраўда. Не такая відавочная, як першая, але няпраўда.

Каб разабрацца з пытаннем, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 14.05.1997 г. правяла парламенцкія слуханні па тэме «Шляхі вырашэння энергетычнай праблемы ў Рэспубліцы Беларусь» і 28.05.1997 г. прыняла адпаведную пастанову. У матэрыялах, якія прадстаўляліся дэпутатам Інстытутам праблем энергетыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ), а затым і ў выступленнях яго дырэктара было паведамлена, што ў Германіі сабекошт электраэнергіі, якая выпрацоўваецца на АЭС, роўны 2,5 пфеніга за 1 кілават-гадзіну. Гэта лічба аказалася недапушчальна заніжанай.

Па-першае, бок, які апаніруе, прад'явіў дэпутатам германскую крыніцу «Atomwirtschaft und Atomtechnik» («Атамная прамысловасць і атамная тэхніка»), № 5, 1991 г., с. 222—229, дзе ў тэксце і табліцы фігуруе велічыня не 2,5 пфеніга, а 8,56; па-другое, на некарэктнасць велічыні ў 2,5 пфеніга за 1 кілават-гадзіну на парламенцкіх слуханнях звярнуў увагу дырэктар інстытута «Белрад», член-карэспандэнт НАНБ В.Б. Несцярэнка (які, дарэчы, 17 гадоў працаваў галоўным канструктарам АЭС): «Я ў сакавіку быў у энергетычным бюро ў Гановеры і бачыў, што фактычны кошт вытворчасці электраэнергіі — 8 пфенігаў за 1 кілават-гадзіну»; па-трэцяе, на парламенцкіх слуханнях не пагадзіўся з велічынёй 2,5 пфеніга за 1 кілават-гадзіну і дырэктар Навукова-тэхнічнага цэнтра нетрадыцыйнай энергетыкі і энергазберажэння НАНБ, доктар тэхнічных навук В.Н. Ермашкевіч. Маючы на ўвазе кошт электраэнергіі, якая выпрацоўваецца на АЭС свету, ён сказаў: «Я хацеў бы звярнуць вашу ўвагу на... некарэктнасць у лічбах... на АЭС (таварышы, я гэту лічбу прыводжу не ад сябе і я яе не лічыў, гэта ў многіх публікацыях) — 12 цэнтаў на станцыях, якія зноў будуюцца. 12 цэнтаў! Гэтыя лічбы апублікаваны, іх заўсёды можаце знайсці».

На будаўніцтва беларускай АЭС патрабуюцца выдаткі: па ацэнках аптымістаў, 4-5 млрд. долараў ЗША; па ацэнках апанентаў (не меншых спецыялістаў), 7—9 млрд. тых жа долараў.

Да ведама: дзяржаўны бюджэт Рэспублікі Беларусь у 1997 годзе — 1,5 млрд. долараў, г. зн. толькі будаўніцтва АЭС (без уліку яе захавання, эксплуатацыйных выдаткаў, затрат на стварэнне інфраструктуры ядзернай энергетыкі) запатрабуе ўвагнаць у жалязякі і бетон ад 3 да 6 дзяржаўных бюджэтаў.

Каб гэтыя сумы ўспрымаліся больш прыземлена, успомнім ліпеньскія 1997 года падзеі, звязаныя з нашым доўгам «Газпраму» за спажываемы прыродны газ: і пасяджэнні ўрада са стварэннем спецыяльнай рэспубліканскай камісіі, і работу гэтай камісіі, і вылет «на дыван» да Рэма Вяхірава спецыяльнай дэлегацыі на чале з віцэ-прэм'ерам. А размова ішла ўсяго пра 119,9 мільёна долараў доўгу! Калі не ўлічваць працэнты на крэдыт (а гэта 6—10 працэнтаў у год) і пагадзіцца з лічбамі, якія называюцца прыхільнікамі «мэтазгоднасці» будаўніцтва АЭС у Рэспубліцы Беларусь, то атрымліваецца, што беларускаму народу давядзецца як мінімум дзесятак гадоў (пакуль будзе атрымана толькі 1-я кілават-гадзіна) адрываць ад сябе штогод у 4 разы большыя сумы, чым названыя 119,9 мільёна долараў. Акрамя таго:

на захаванне адпрацаванай АЭС спатрэбяцца не меншыя сродкі, чым на яе будаўніцтва, што добра вядома па Чарнобыльскай АЭС (пры гэтым не варта забываць, што Беларусь па насельніцтву ў 5 разоў меншая краіна, чым Украіна, адпаведна, у яе меншыя і матэрыяльныя магчымасці);

150-мільённая Расія, якая атрымала ў спадчыну ад СССР інфраструктуру ядзернай энергетыкі, не можа вырашыць пытанне з захаваннем нават сваіх ядзерных адходаў (гл. «Известия» за 6.05.1997); у іх перапрацоўваецца толькі 30 працэнтаў адпрацаваных цеплавыдзяляльных зборак; ствараць жа «з нуля» ядзерна-энергетычную інфраструктуру дзяржаве з 10-мільённым насельніцтвам — гэта звышскладаная задача, што бачна ўжо сёння: на паліва, выгружанае з міні-рэактара АЭС «Памір» (пасёлак «Сосны» пад Мінскам), мы незваротна каля дзесятка гадоў штогод трацім вялікія сумы грошай.

І яшчэ, паважаныя прыхільнікі «мэтазгоднасці» будаўніцтва беларускай АЭС: а на сабекошт чаго вы спісваеце 240 млрд. долараў страт, якія панесла Беларусь ад чарнобыльскай катастрофы?

**ТРЭЦЯЯ НЕКАРЭКТНАСЦЬ** прыхільнікаў «мэтазгоднасці» развіцця ў Рэспубліцы Беларусь ядзернай энергетыкі: энергетычная значнасць адной беларускай АЭС (аб выдатках на якую ідзе гаворка) падносіцца грамадству ў 5—7 разоў перабольшанай. У прыватнасці, свае думкі яны вуснамі журналістаў выказваюць так: «увядзенне станцыі ў строй дазволіць забяспечыць да 30 працэнтаў энергапатрэбнасці краіны» («Белорусская деловая газета», 2.02.98).

Некарэктнасць заключаецца ў тым, што «энергія» і «электраэнергія» — паняцці розныя. Энергапатрэбнасць уключае ў сябе не толькі энергію, якая ідзе на прывядзенне ў рух электрарухавікоў, але таксама і на прывядзенне ў рух легкавога і аўтамабільнага транспарту, на ацяпленне памяшканняў і да т.п. Электраэнергапатрэбнасць беларусаў у сем разоў меншая, чым энергапатрэбнасць.

Энергетычная значнасць плануемай да будаўніцтва беларускай АЭС не перавышае 4,5 працэнта. Разлік прыведзены мною ў «Советской Белоруссии» за 25.06.97 і не абвергнуты. Праўда, такая спроба была («Советская Белоруссия» за 18.07.97). Мой апанент прыйшоў да высновы, што энергетычная значнасць разглядаемай АЭС (цытую) «13,6 працэнта. Але гэта для гіпатэтычнай АЭС, а на самай справе велічыня будзе крыху меншай».

Што можна сказаць наконт гэтага?

Па-першае, 13,6 працэнта — гэта ўжо не 30 працэнтаў. Па-другое, апанент атрымаў 13,6 працэнта «арыгінальным» метадам. Цытую: «атамныя электрастанцыі маюць ККДз прыкладна 33 працэнты і... трэба 4,5 раздзяліць на 0,33», г. зн. таму, што спецыялісты, якія «клапоцяцца» аб нашым тэхнічным пераўзбраенні, плануюць да выкарыстання тэхніку, у якой 67 працэнтаў цеплавай энергіі ідзе на падаграванне ракі, то трэба 4,5 раздзяліць на 0,33.

Пэўная логіка ў разважаннях майго апанента праглядалася б, калі б ён вёў гаворку аб планах на наступны год і ўлічваў ККДз рэальна дзеючых электрастанцый на газе, мазуце, вугалі (ККДз якіх крыху вышэй за 0,33). Але гаворка вядзецца аб энергетычнай палітыцы, аб 2010 годзе, аб замене састарэлай тэхнікі і тэхналогій новымі, калі трэба ўлічваць, што ўжо сёння ў іншых краінах выкарыстоўваюць цеплаэлектрастанцыі на рухавіках унутранага згарання, ККДз якіх перавышае 90 працэнтаў.

Заўважым таксама, што акрамя Рэспублікі Беларусь існуе шмат іншых краін. І ў іх таксама лічаць умоўнае паліва. Сусветны вопыт такі, што пры падліку ўмоўнага паліва пераход ад адных адзінак вымярэння энергіі да іншых (ад кілават-гадзін да кілакалорый і наадварот) ажыццяўляюць пры ККДз, роўным адзінцы. Аб гэтым паведамляецца, у прыватнасці, у «Эканоміцы энергетыкі СССР /Пад рэд. А. Н. Шышова. Падручнік для студэнтаў інжынерна-эканамічных спецыяльнасцяў ВНУ. — М.: Высш. шк., 1986» (гл. 176). А таксама гл. «Дапаможнік эканамічнай камісіі ААН па запаўненню табліц па энергетычнаму балансу», падпісаны сакратаром камісіі Брусам Коенам (Bruce Cohen).

**ЧАЦВЁРТЫ ДОКАЗ** прыхільнікаў «мэтазгоднасці» развіцця ў Рэспубліцы Беларусь ядзернай энергетыкі: «АЭС няма альтэрнатывы».

Альтэрнатыва ёсць! Напрыклад, геліяэлектрычнасць.

Фрагментарна аб геліяэлектрычнасці.

Згодна з заключэннем Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях Рэспублікі Беларусь, у прымяненні да Рэспублікі Беларусь сабекошт 1 кілават-гадзіны геліяэлектраэнергіі ў 7 разоў вышэй, чым выпрацаванай традыцыйным спосабам; гэта ацэнка добра карэліруе з паведамленнямі іншых незалежных крыніц.

У гарачых краінах удзельны (на адзінку плошчы) светлавы паток у 2,5 раза большы, чым у сярэдніх шыротах; адпаведна, меншы і ўдзельны кошт 1 кілават-гадзіны.

70 працэнтаў насельніцтва зямнога шара жыве далёка ад электрычных сетак, і ў гэтых выпадках сабекошт электраэнергіі, вырабляемай традыцыйнымі спосабамі, павялічваецца (і значна) за кошт неабходнасці пракладкі ліній электраперадач (арыенціровачныя затраты: 4000—25.000 долараў ЗША за кожны кіламетр).

Незадаволены попыт на геліяэлектрычныя сістэмы існуе ўжо сёння; у свеце сумарная магутнасць устаноўленых сонечных батарэй ацэньваецца велічынёй у 500 тыс. кВт; міждзяржаўны гандаль геліяэлектрычнымі вырабамі ацэньваецца наступнымі лічбамі: 1985 год — 23; 1986-ты — 26; 1987-мы — 29; 1988-мы — 34; 1989-ты — 40; 1990-ты — 47 і 1996 год — 70 тыс. кВт.

Германія мае намер да 1999 года ў Альцэнау (Баварыя) і Гельзенкірхене (Паўночны Рэйн-Вестфалія) пабудаваць два заводы сонечных батарэй; іх сумарная магутнасць складзе 40 тыс. кВт. Прэзідэнт ЗША заявіў аб намерах да 2010 года накрыць сонечнымі батарэямі 1 мільён дахаў.

Увесь свет узмоцнена працуе над прыручэннем сонечнай энергіі; нават Галандыя і Бельгія, дзе няма экспартнай і энергетычнай праблем, узровень якіх у мікраэлектроннай (а геліяэлектрычныя элементы — гэта паўправаднікі невысокай якасці) навуцы і тэхніцы ніжэй, чым наш, і тыя маюць свае нацыянальныя праграмы па геліяэлектрычнасці; у нас ёсць гатовыя для вырашэння пастаўленага пытання кадры і тэхнічная база, існуюць праблемы з электроннай прамысловасцю, а мы слухаем міфічныя расказы аб тым, што «АЭС — экалагічна самыя чыстыя, а эканамічна самыя выгадныя» і марна губляем час.

Рынак для геліяэлектрычнай прадукцыі велізарны і пакуль не заняты, што дазваляе беларусам вырашыць сваю экспартную, а затым і энергетычную праблемы.

**Руслан ІГНАЦІШЧАЎ,**
**старшыня падкамісіі па навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, доктар тэхн. навук, прафесар.**



На той бераг

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.



Рыгор БАРАДУЛІН

## БУДЗЬМА!

*Доля праедзе ў дрогкай карэце,*
*Следам пасцелецца дым.*
*Хай жа на гэтам*
*Сустрэнемся свеце*
*Перад сустрэчай на тым.*

*Зробіцца прыцемкамі дасвецце,*
*Ясень зялёным сівым.*
*Будзьма на гэтым*
*Бяседзіцца свеце,*
*Каб не згубіцца на тым.*

*З хатаў і душ нашых*
*Вымецем смецце.*
*Хай будзе келіх як брат.*
*Лепей на гэтым*
*Пахмелімся свеце.*
*Той наліе нам наўрад.*

### ТЧЭЦЦА...

*Зрэбны, шарачковы, ільняны*
*Тчэцца лёс людзкі*
*На зорных кроснах.*
*Чаўнакі,*
*Як мройныя чаўны,*
*Мчацца рэкамі настрояў розных.*

*Зрэбны, ён не срэбны.*
*Канаплі*
*На знясіленых хапае гонях.*
*Гэта коней на зямлі звялі*
*І падаўся ў неба босы конюх.*

*Шарачковы —*
*Колераў няшмат,*
*Быццам вугаль з дымам,*
*Чорны з шэрым.*
*Ранішніх праталінак пагляд.*
*Страх і смеласць,*
*Недавер з даверам.*

*Ільняны —*
*Ён лён, як сіні сон,*
*Што прысніўся на раллі нябёсам.*
*Цёмная пакута й светлы плён —*
*Ільняным здавён спавіты лёсам.*

*Зрэбны, шарачковы, ільняны —*
*Тчэцца лёс*
*На кроснах даўніны...*

### ПАСТУПОВА...

*Дамоў хачу*
*На парог стаптаны,*
*На мяккі ложак, на мулкі ўслон,*
*У сонны смутак, у смутны сон,*
*На луг, дзе боязь пасвіць заганы.*

*Губляю звычкі і не шукаю,*
*З чаканнем не заключаю дамоў.*
*І сэнсу халоднага ў слове дамоў*
*Не дужа палохацца прывыкаю...*

### ЗАПРОСІНЫ

*Перапёлка шэрая,*
*Адкажы, прашу,*
*Чым жа ты вячэрала,*
*Нашчыла душу?*

*Ці расой заспанаю,*
*А ці каласком,*
*Ці нябеснай маннаю*
*Над глухім стаўком?*

*Будзь жа госцяй быстраю*
*За маім сталом,*
*пачастунак выстаўлю —*
*Пераксці крылом.*

*Мой настрой зажураны*
*Голасам суцеш,*
*Небасхіл зажмураны*
*Знічкаю разрэж...*

### ДВА ГАЛАСЫ

*Мне мамін голас чуваць часцяком.*
*Раптоўна ціша журбу ўскалыша.*
*Як быццам голас маўчаў пад замком*
*І вырваўся, каб паклікаць:*
*— Грыша...*

*Знянацку пачуецца голас другі,*
*Як быццам сум мой*
*Знайшоў яго недзе.*
*Здаецца, злучае два берагі*
*Унучына, Дамінічына:*
*— Дзедзя...*

*І голас змоўчаны,*
*І трапяткі*
*У розныя клічуць бакі...*

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 32 (150)**




## Асабістае жыццё

**Аб. 794.** Пазнаёмлюся са сталым мужчынам, якому надакучыла адзіноцтва. 57 гадоў, маю работу, жыву ва ўласным доме ў г. Навагрудку.

**Аб. 795.** Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам ва ўзросце да 48 гадоў для стварэння сям'і. Жыву ва ўласным доме.

212030, г. Магілёў, а/с 16.

**Аб. 796.** Жанчына 43/169/60 шукае надзейнага спадарожніка жыцця ва ўзросце да 48 гадоў. Мае аднапакаёвую кватэру. Матэрыяльна забяспечаная. Галя.

212030, г. Магілёў, а/с 16.

**Аб. 797**. Пазнаёмлюся з хлопцам ва ўзросце да 25 гадоў. Аб сабе: Вадалей, 18/165/61. Прывабная жвавая бландзінка, любіць сябраваць. Святлана.

**Аб. 798.** Хачу пазнаёміцца з прыгожай сціплай дзяўчынай. Аб сабе: 19 гадоў, 80/180, цёмнавалосы. Андрэй.

## ПРАДАЕЦЦА

- Л/а «Масквіч-412», 1980 г. в., 450 у. а. *Тэл. у Мядзельскім раёне (8-297) 3-31-03.*
- Л/а «Масквіч-2138, 1980 г. в., тэрмінова, можна на з.ч, 300 у. а., Клецкі раён, в. Цясноўка. *Тэл. 44-2-74.*
- Л/а «Аудзі-90», 1985 г. в., V-2 л Люк цэнтральны замок, у выдатным стане, бензін, г. Валожын. *Тэл. (8-272) 5-52-85*
- Л/а «Форд-Сіера», 1986 г. в, дызель, колер «сапфір», г. Вілейка. *Тэл. 41-2-01.*
- Л/а «БМВ-520», 1980 г. в., у добрым стане, растаможаны,. 1800 у. а., г. Мінск. *Тэл. 272-64-87, увечары.*
- Л/а «ВАЗ-2103» або абмен на трактар «Т-25», персанальны камп'ютэр, г. Глыбокае. *Тэл. (8-02156) 2-48-84.*
- 3-пакаёвая кватэра 34 кв. м у чатырохпакаёвым доме, гаспадарчыя пабудовы, у г. Ваўкавыску. *Тэл. у Мінску 32-88-78, у г. Смалявічы — 5-49-48.*
- 3-пакаёвая кватэра ў г. Крупкі. *Тэл. (8-01796) 5-67-6, увечары.*
- Дом з бытавымі выгодамі ў прыгарадзе Баранавіч, з тэлефонам, прысядзібны ўчастак, сад. *Тэл. у Ляхавічах 2-37-54.*
- Дом з 4-х пакояў у цэнтры г. Валожын з тэлефонам, гараж, лазня, з/у 21 сотка, сад. *Тэл. 55-2-46.*
- Дом на дачу або на знос у в. Мільча Вілейскага раёна. *Звяртацца: Рысак Уладзімір Міхайлавіч.*
- Дача каля ст. Радашковічы. *Тэл. у Мінску 268-00-25.*
- Дачны участак памерам 6 сотак, недабудаваны дом, в. Аксакаўшчына Мінскага раёна, акардэон. *Тэл. у Мінску 256-99-26.*
- Швейная машына «Зінгер», рухавік двухцыліндравы, запчасткі да а/л «РАФ». *Тэл. у г. Валожын 55-2-25.*
- Бензапіла шведская. *Тэл. у Мінску (8-22) 57-06-88.*
- Карова ва ўзросце 5 гадоў. *Тэл. у Навагрудку 72-6-56.*
- Кабыла з жарабём. Цана па дамоўленасці. *Тэрмінова звяртацца: 222632, Нясвіжскі раён, в. Асмолава, вул. 17 Кастрычніка, 50, Жукоўскі С. К.*
- Тры аконныя блокі памерам 106 х 145 см; энцыклапедычнае выданне «Живописная Россия», «Литовское и белорусское Полесье», А. Міцкевіч «Пан Тадэвуш»; збор твораў Г. Сянкевіча ў 9 тамах; «Археалогія і нумізматыка Беларусі». *Тэл. у Мінску 247-65-76., пасля 20 гадзін.*

## МЯНЯЮ

- 2-пакаёвую кватэру ў г. Нароўля на аднапакаёвую ў Мазыры. Магчымы варыянты. *Тэл. у Мазыры 28-3-35.*
- 1-пакаёвую кватэру ў г. Светлагорску на раўназначную ў г. Слуцку або прадам. *Тэл. у Слуцку 90-3-16.*
- 3-пакаёвую кватэру ў г. Новалукомлі на 2-пакаёвую ў г. Мінску ці Заслаўі, або прадаю. Тэрмінова. *Тэл. 3-71-77.*
- Маніпулятар «Логліф», тралёўшчык «ЛКТ» на абразную дошку.

## РОЗНАЕ

- Куплю танна аўтамабіль «Тарпан». *Тэл. у Віцебску (8-0212) 33-85-48.*
- Куплю «МТЗ-82(80)» або «Т-25(40)». *Тэл. у Мінску 251-06-48.*
- Куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, мікраскоп, фуражкі, пагоны (да 1958 г.), значкі. *Тэл. у Мінску 253-24-41.*
- Здаю ў арэнду палову дома з асобным уваходам. *223091, г. Мінск, Азярышча, вул. Бэзавая, 8.*
- 31-гадовы жыхар г. Мінска шукае работу на вячэрні час, выхадныя дні. *Тэл. 241-19-42.*
- Лячэнне поліартрыту, жоўце- і мачакаменнай хваробы, цыстата травамі. *247210, г. Жлобін, вул. Таварная, 7. Лешчанка А. Ю., доктар. Тэл. 2-02-13 (хатні), 2-40-77 (рабочы).*

## ВІНШАВАННІ

Дарагога любімага татачку **Івана Трафімавіча БЛАЯКА** з в. Церабостынь Карэліцкага раёна віншуем з 70-годдзем.

*Жадаем хваробы не ведаць ніколі.*
*Пражыць год да сотні, а можа, і болей*
*У добрых клопатах і ў душэўным спакоі.*

**Жонка, дзеці, унукі**

Любага брата **Кастуся Георгіевіча РОЗМЫСЛА** са Скідаля віншую з 70-м юбілеем.

**Алесь Жалкоўскі,** *г. Ліда.*

Сардэчна віншуем з 70-годдзем **Марыю Канстанцінаўну КАЗАРЭЗ** з в. Тупалы Карэліцкага раёна. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, доўгіх гадоў жыцця.

**Дзеці, унукі, праўнукі.**

Сардэчна віншуем з 45-годдзем **Валянціну Аляксееўну НАВУМОВІЧ** з в. Жылічы Клецкага раёна.

*«Пусть сердце старости не поддается,*
*Пусть не страшат летящие года,*
*Пусть веселей и радостней живется.*
*И пусть здоровье не подводит никогда!»*

**Муж, дзеці, унучка Юлька.**

Віншуем мілую дачку **Алу ГАВАНОЎСКУЮ** з 30-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця.

**Бацькі,** *в. Ліпкі Астравецкага раёна.*

Шчыра віншуем любага сына і брата **Валеру КАЛОСКА** з 25-годдзем. Жадаем поспехаў у жыцці і працы, моцнага здароўя і шчасця.

**Родныя,** *в. Камень, Валожынскага раёна.*

Ад усёй душы віншую любую матулю **Рыму Дзмітрыеўну ГАНЧАРОВУ** з днём нараджэння. Жадаю радасці, шчасця, сямейнага дабрабыту.

**Сын Аляксандр,** *г. Магілёў.*

Віншуем любага татачку і мужа **Уладзіміра Мартынавіча МАРКОЎСКАГА** з в. Маркоўскае Лельчыцкага раёна. Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту і ўсяго самага найлепшага.

**Жонка Клаўдзія, дзеці.**

Віншуем з днём нараджэння мінчанку **Ірыну ДЗЕМІДОВІЧ.**

*«Желаем, чтоб люди ценили тебя,*
*И мы чтоб тобою гордились.*
*Чтоб вся твоя жизнь, как весенний букет,*
*Любовью, здоровьем и счастьем светились».*

**Сям'я Белых і Ліхарай,** *в. Гашчава Івацэвіцкага раёна.*

Добрага сябра-земляка **Аляксандра Іванавіча КАЛБЫКУ** віншую з днём нараджэння.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ,** *г. Ліда.*

Віншуем з днём нараджэння **Марыю Фёдараўну НАКАНЕЧНІК** з пас. Сасновы Бор Івацэвіцкага раёна. Жадаем здароўя, шчасця, смеху і доўгага веку.

**Калегі па працы.**

Дарагія дачушкі **Вера ВАЎЧОК і Марыя КУНЦЭВІЧ!** Віншуем вас з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту.

**Бацькі,** *в. Нянькава Навагрудскага раёна.*

Віншуем з днём нараджэння дарагога зяця **Васіля Рыгоравіча АНОШКУ.** Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у жыцці і працы, сямейнага дабрабыту.

**Муж і жонка Падворныя,** *в. Зябкі Глыбоцкага раёна.*

Горача і сардэчна віншуем з днём нараджэння мінчаніна **Пятра Адамавіча КОНДЗІКА.** Жадаем моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.

**Сям'я сына,** *г. Мінск.*

**РЫЖАНКОВУ Аліну** віншуем з днём нараджэння. Зычым поспехаў у вучобе, здароўя і шчасця.

**Бацькі і сястра,** *в. Стайкі Баранавіцкага раёна.*

Віншуем з днём нараджэння дарагую **Таццяну ВАСІЛЕВІЧ** з г. Мінска.

*Жадаем здароўя, удачы, цяпла і кветак,*
*І смеху, і многа дабра і добрых дзетак.*
*Каб жыць не тужыць многа год давялося,*
*Каб збылося ўсё, што яшчэ не збылося!*

**Родныя** *з в. Жылічы Клецкага раёна.*

Сардэчна віншуем з днём нараджэння мінчанку **Аляксандру Іванаўну МОНІЧ.** Жадаем моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.

**Дзеці.**

Віншую **Віталя МІНКЕВІЧА і Таццяну ЧАСНАК** са шлюбам. Моцнага вам кахання, здаровых і прыгожых дзетак выгадаваць.

**Эля Доўнар,** *г. п. Івянец Валожынскага раёна.*

## Запасы нафты ў адзінай у Беларусі нафтагазаноснай зоне ацэньваюцца ў 1 мільярд тон

Па інфармацыі гомельскага філіяла Беларускага навукова-даследчага геолагаразведачнага інстытута, запас Прыпяцкай упадзіны — адзінай у Беларусі нафтагазаноснай зоны — ацэньваецца ў 1 мільярд тон нафты. Аднак з-за яе складанай геалагічнай будовы можна здабыць не больш як 340 мільёнаў тон, прычым толькі 60 працэнтаў гэтай колькасці будуць рэнтабельнымі. На сённяшні дзень здабыта з нетраў амаль 100 мільёнаў тон нафты і разведана каля 30 мільёнаў тон нафтавых запасаў. ВА «Беларуснафта», якое эксплуатуе 51 радовішча, штогод здабывае каля 1,8 мільёна тон «чорнага золата». А перад геолагамі-разведчыкамі пастаўлена задача кожны год знаходзіць нафты не менш, чым здабываецца.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

*Паведамляе прэс-служба Міністэрства фінансаў*

## БЮДЖЭТ: ЗАХОЎВАЕЦЦА СТАБІЛЬНАСЦЬ ПАСТУПЛЕННЯЎ І ... РАСЦЕ НЯДОІМКА

**У Міністэрстве фінансаў на пашыранай нарадзе прааналізаваны вынікі выканання бюджэту за першае паўгоддзе.**

Як паведаміў начальнік Галоўнага дзяржаўнага казначэйства Андрэй Харкавец, у першым паўгоддзі ў бюджэт паступіла дастаткова даходаў, каб прафінансаваць у поўным аб'ёме прадугледжаныя расходы, а па такіх графах бюджэтных расходаў, як капітальнае будаўніцтва і набыццё абсталявання, — прафінансаваць нават з некаторым перавышэннем. Захоўваецца стабільнасць паступленняў ад асноўных фінансавых крыніц.

Тым не менш, за паўгоддзе нядоімка бюджэту падвоілася, фінансавыя паказчыкі шэрагу суб'ектаў гаспадарання пагоршыліся, павялічылася колькасць стратных прадпрыемстваў, што адбілася на іх разліках з бюджэтам.

Андрэй Харкавец лічыць, што неабходна прынцыпова змяніць падыходы да кіравання дзяржаўнай уласнасцю. Сёння даходы ад яе выкарыстання маюць нязначную ўдзельную вагу ў бюджэце. А вось ільготы, якія прадастаўляюцца прадпрыемствам, аказваюць на яго прыметны ўплыў. Так, за паўгода было падпісана каля 60 пастаноў аб вызваленні ад уплаты падаткаў і мытных плацяжоў шэрагу буйных прадпрыемстваў, якія даюць істотны аб'ём паступленняў у бюджэт.

Разам з тым старшыня Дзяржаўнага падатковага камітэта Мікалай Дзямчук паведаміў, што, паводле даных спецыялістаў МВФ, збіральнасць падаткаў у рэспубліцы — самая высокая сярод былых постсавецкіх дзяржаў, а нядоімка, напрыклад, у два разы ніжэйшая, чым у Францыі. На яго думку, без інвестыцыйных укладанняў, адраснай падтрымкі асобных прадпрыемстваў, у тым ліку і шляхам вызвалення іх ад падаткаў, нам не абысціся.

Спецыялісты бюджэтнага ўпраўлення прагназуюць у 1998 годзе павелічэнне даходаў бюджэту прыкладна ў 1,2 раза супраць зацверджаных параметраў. Адпаведна, павялічацца лічбы ў расходнай частцы, прычым змяненні закрануць галоўным чынам сацыяльную сферу.

У прыватнасці, мяркуецца, што будуць павялічаны зарплаты бюджэтнікам. На чвэрць павялічацца расходы на пераадоленне наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Значна ўзрасце падтрымка сельгасвытворцаў — як за кошт бюджэту, так і за кошт сродкаў адпаведнага рэспубліканскага фонду падтрымкі. Амаль на 20 працэнтаў больш будзе накіравана сродкаў на капітальнае будаўніцтва. Пры гэтым мяркуецца скараціць дэфіцыт бюджэту больш чым на два трыльёны рублёў ці да 2,5 працэнта да ВВП.

Першапачатковы варыянт праекта ўжо новага бюджэту — бюджэту 1999 года будзе разгледжаны калегіяй Міністэрства фінансаў у канцы жніўня.

## НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ НА МІНСКІХ ХАРЧОВЫХ РЫНКАХ ЗАФІКСАВАНЫ ІСТОТНЫ РОСТ ЦЭН НА ШЭРАГ ВАЖНЕЙШЫХ ТАВАРАЎ

**На мінскіх харчовых рынках зафіксаваны новы цэнавы скачок.**

За мінулы тыдзень кошт, напрыклад, агуркоў вырас у сярэднім на 59 працэнтаў, мукі — на 16, апельсінаў — на 12, макаронных вырабаў — на 7, цукру і жывёльнага масла — на 6, імпартнага шакаладу — на 4, курынага мяса, круп, вараных каўбас і імпартных цыгарэт — на 3, алею і смятаны — на 2 працэнты.

Асноўнымі прычынамі падаражання з'яўляюцца новы вiток росту безнаяўнага і наяўнага курсаў амерыканскага долара, а таксама сезонны фактар.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

Віншуем з днём нараджэння **Дарафейчык (Блізнец) Наталлю Іванаўну** з вёскі Пагарэлае Асіповіцкага раёна.

Хай доўга б'ецца ваша сэрца, хай ніколі яго не кранае сум, хай здаровымі будуць вашы дзеці і ўнукі, дабрабыту і радасці ў хату.

**Сям'я Хурсікаў.** *Мінск.*



## ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

**Кіраўнік Генеральнага консульства Рэспублікі Эстонія ў Мінску Янус Вару прэзентаваў мне брашуру «Бізнес у Эстоніі. Парады прадпрымальніку», выдадзеную ў гэтым годзе эстонскай гандлёва-прамысловай палатай. Не таму, што я раптам вырашыла стаць бізнесменкай, на гэта ў мяне няма абсалютна ніякіх здольнасцяў. А таму, што ўбачыў маю цікавасць да сваёй краіны.**

# ЗАБЫТАЯ ПРЫХІЛЬНАСЦЬ

Сапраўды, мы нешта ведаем пра Літву і Латвію, бо тая ці іншая інфармацыя ўсё-такі з'яўляецца на старонках нашага друку, іншая справа, наколькі яна аб'ектыўная. Пра Эстонію ж — без перабольшання — нічога. Чаму так здарылася, нават цяжка патлумачыць. Мо, таму, што Эстонія была заўсёды для нас большай «заграніцай», чым тыя Літва і Латвія?

У Вільнюсе, напрыклад, усе мы бывалі шмат разоў, а вось у Таліне — хто лічаныя разы, а хто і наогул толькі аднойчы, як я. У апошні ці перадапошні год выхаду Эстоніі з СССР у Таліне ладзіўся фестываль мастацтваў, у якім прымала ўдзел і Міністэрства культуры БССР. Вось на яго я і акрэдытавалася, а Беларусь, дарэчы, прыпісалася на адной з цэнтральных вуліц эстонскай сталіцы аж цэлым нацыянальным падвор'ем.

Беларускія артысты прымалі ўдзел і ў канцэрце на знакамітым «Пеўчым полі», — яно было вядома на ўвесь Саюз сваімі традыцыямі.

І ўсё ж найбольшае ўражанне засталося ад саміх эстонцаў, — стрыманых, вельмі карэктных і працалюбівых. А таксама ад самога Таліна, па старажытных вуліцах якога блукалі шматлікія турысты (чулася гаворка на мностве розных моў). У горадзе ўжо тады былі вулічныя кафэ, якія для нас больш савецкіх, чым эстонцы, былі навінай, нечым незвычайным, таму менавіта гэтая акалічнасць і ўзгадваецца часцей чым іншая.

Калі Эстонія набыла незалежнасць, і ўехаць у яе проста так, у любы час, калі пажадаеш, стала немагчымым, мы паступова нават пачалі забываць пра яе, і адначасова адчуваць настальгію, якую адчуваеш па нечаму як бы амаль назаўжды страчанаму. Хаця ведаеш, што нікуды краіна не дзелася, і як высвятляецца пры нагодзе, працягвае жыць у тваім сэрцы.

Нагодай гэтай стала спачатку знаёмства з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Эстоніі Нінай Савінавай і Яўгенам Рогавым, а потым з генеральным консулам Янусам Вару. Тыя з маіх калег-журналістаў, якія таксама пазнаёміліся з Вару, літаральна закідалі яго пытаннямі пра Эстонію, узгадвалі, як і я, прыемныя ўражанні, звязаныя з Талінам. А адзін тэатразнаўца з такім веданнем расказваў пра эстонскае тэатральнае мастацтва апошніх гадоў савецкай улады ў Эстоніі ды рэжысёраў, што Янус аж рукамі развёў: «Ну, вы ведаеце нашмат больш ,чым я!»

Канешне, яму было прыемна, што існуе такая прыхільнасць да Эстоніі, ён нават і не падазраваў аб ёй. У той жа час у Эстоніі, па яго словах, нічога ці надзвычай мала ведаюць пра Беларусь. Такім чынам, мы, на жаль, тут «родныя» — з-за поўнай адсутнасці інфармаванасці адна пра адну. Згаданыя Ніна Савінава і Яўген Рогаў хочуць па магчымасці ліквідаваць гэты прабел, адчыніўшы ў Таліне беларускі інфармацыйны цэнтр.

Адначасова яны паставілі перад сабой і іншую, як бы ўжо звышзадачу — адчыніць беларускі гандлёвы дом, каб дапамагчы ўзняць узровень адносінаў дзвюх краін на новую прыступку — эканамічную, бо дасюль стасункі беларускай дыяспары з бацькаўшчынай звodзіліся толькі да культурных мерапрыемстваў. Амаль усе знакамітыя беларускія мастацкія калектывы паспелі пабываць у Таліне.

Ніна, дарэчы, па спецыяльнасці — рэжысёр тэатралізаваных прадстаўленняў, яна скончыла інстытут культуры ў Мінску. Яўген адзін са спонсараў гэтых мерапрыемстваў, у савецкай Эстоніі працаваў тэхнолагам рыбапрамысловых суднаў. Год хадзілі Савінава (у асноўным яна) і Рогаў па калідорах розных інстанцый у Мінску, прабіваючы свае ідэі. Навошта гэта ім? Ці не прасцей было б працягваць будаваць стасункі з бацькаўшчынай па ранейшай схеме — цалкам культурнай? У адказ я пачула: «Ні адзін фестываль, ні адно свята немагчыма правесці без матэрыяльных затрат. Па-ранейшаму працягвацца не можа, таму што грошы ў нас у Эстоніі прывыклі зарабляць, а не проста спансіраваць».

Тут я зрабіла сама сабе рэмарку — у нас дзяржава, нават пры сённяшняй эканамічнай сітуацыі, грошай на важныя, з яе пункту погляду, культурныя мерапрыемствы, напрыклад, «Славянскі базар у Віцебску» не шкадуе. Ды і ў нас бізнесменаў такіх, бадай, няма, якія б у стане былі гэта рабіць.

Мяркуючы па выказваннях Ніны з Яўгенам, яны ўжо ндрэнна асвоіліся ва ўмовах новага ладу Эстоніі. І набыты імі там вопыт, відаць, будзе цікавы і для жыхароў Беларусі і ўвогуле для нашай краіны, для — будзем спадзявацца на гэта! — сумеснай працы на карысць абедзвюх краін.

*З інтэрв'ю з Нінай Савінавай і Яўгенам Рогавым.*

**Ніна:** Мне здаецца, Беларусі грэшна было б не пакарыстацца вопытам маленькай краіны, у якой ёсць цікавыя напрацоўкі, імідж у заходнім свеце. У нас выраслі прадпрымальнікі, якія, можа быць, пачыналі так, як зараз у Беларусі. Гэта ўзровень дзесяцігадовай даўнасці. І паўтаруся, грэшна было б не пакарыстацца напрацоўкамі нашых прадпрымальнікаў, якія маюць цудоўныя выхады ў заходнія краіны, калі ў свеце бізнесу давяраюць слову. Між тым — і пра гэта балюча гаварыць, — сувязі Беларусі з Захадам усё звужаюцца і звужаюцца.

Беларусі трэба паглядзець на сябе збоку. Мы прыходзім сюды не як нейкая ценявая структура з Эстоніі, а адкрыта, нас у Эстоніі добра ведаюць, думаю, што ўжо і ў Беларусі. Тым больш, што мы зрабілі разам з канцэрнам «Белрэсурсы» сумесны гандлёвы дом. Юрыдычна ён прысутнічае, але трэба вельмі моцна думаць і знаходзіць нішы і магчымасці, каб па-сапраўднаму запрацаваць. А то па-ранейшаму прыйдзецца толькі спяваць песні і закусваць бульбай і, калі пашанцуе, яшчэ нечым.

Мы ж у Эстоніі як бы ўжо і не «чыстыя» беларусы, а з «прысмакам» крыху іншай атмасферы, але мы цягнемся сюды, у Беларусь, мы можам прапанаваць цікавыя праекты. І з намі прыйдуць на беларускі рынак эстонскія прадпрымальнікі, якія будуць весці нармальны, цывілізаваны бізнес.

**Яўген:** Сумесная праца павінна прыносіць кожнаму боку нейкія дывідэнды — маральныя, фінансавыя... А дзеля гэтага трэба стварыць спрыяльную атмасферу для яе. Мы ўдзячныя спадару Астапчанку Юрыю Леанідавічу, кіраўніку канцэрна «Белрэсурсы», які адгукнуўся на наша пачынанне, актыўна дапамагаў у стварэнні гандлёвага дома. Але смешна сказаць, — сустрэчы з ім мы шукалі ў Расіі, а не Беларусі, паколькі тут не маглі яго застаць. «Знайшлі» мы яго ў Марыінскім палацы Санкт-Пецярбурга.

У Эстоніі людзі вельмі хутка вывучыліся працаваць па-заходняму. Таму што ў краіны ёсць канцэпцыя, якая накіравана на стварэнне спрыяльнага для развіцця бізнесу клімату. Толькі пытанні стратэгічнага плану засталіся ў дзяржавы, астатнія — цалкам у прыватных руках.

Мы не просім у Беларусі фінансавай дапамогі, мы хацелі б стварыць сумеснае прадпрыемства, новыя рабочыя месцы, самі зарабляць грошы, але неабходны для гэтага ўмовы, напрыклад, хуткасць у цэнаўтварэнні.

**Ніна:** Эканамічныя сувязі, але на нізкім узроўні, паміж Эстоніяй і Беларуссю існуюць. Але пажадана, каб яны былі на больш дзелавым узроўні. Хацелася б прывезці сюды сур'ёзных бізнесменаў — Беларусь мае патрэбу ў сувязях з Захадам!

**Яўген**: Мы ўжо выраслі з узроўню «проста магазін» ці «купі-прадай». У мяне ёсць свае гандлёвыя кампаніі, якія працуюць не толькі са скандынаўскімі краінамі, але і Аргенцінай, Бразіліяй, Ізраілем. Мы прыйшлі ў Беларусь, каб паказаць, што мы можам, прыцягнуць да супрацоўніцтва як дзяржаўныя структуры, так і прыватны бізнес. На жаль, з беларускага боку мы пакуль не дачакаемся канкрэтных дзелавых прапаноў.

**Ніна:** Блуканне па пакутах працягвалася год, але мы так проста не здадзімся! Мы ведаем, куды мы прыйшлі. Я — этнічная беларуска, мае ўсе карані тут. Мы знойдзем агульную мову, але хацелася б, каб гэта адбылося хутчэй. Мы хочам стаць звязуючым звяном паміж эстонскімі і беларускімі прадпрымальнікамі.

**Яўген:** Мы разумеем, што некаторыя прыходзяць сюды, каб хутчэй ўварваць як мага больш грошай і хутчэй збегчы. Мы ж жадаем працаваць доўга, нармальна і цывілізавана. Дыяспара існуе не толькі ў Эстоніі, і чаму б разам з ёю не ствараць тыя гандлёвыя дамы і ў іншых краінах? У перспектыве можна б было стварыць нават раду з бізнесменаў дыяспары, якая б выступала ў ролі дарадчыкаў, кансультантаў дзелавых людзей Беларусі, а можа, і нейкіх дзяржаўных структур.

**Галіна АЙЗЕНШТАДТ.**

***(Заканчэнне будзе.)***

## УКАЗ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 399

### АБ НАЗНАЧЭННІ ПАЎНАМОЦНАГА ПРАДСТАЎНІКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У САВЕЦЕ МІЖДЗЯРЖАЎНАГА БАНКА

У адпаведнасці з Пагадненнем аб заснаванні Міждзяржаўнага банка ад 22 студзеня 1993 г. **пастанаўляю:**

1. Назначыць Старшыню Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Пракаповіча Пятра Пятровіча Паўнамоцным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь у Савеце Міждзяржаўнага банка.

2. Прызнаць страціўшым сілу Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 мая 1997 г. № 304 «Аб назначэнні Паўнамоцнага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь у Савеце Міждзяржаўнага банка» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 15, арт. 548).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
*14 жніўня 1998 г. г.Мінск.*

## ЗАКАНАДАЎЦЫ ВУЧАЦЦА І ЎМАЦОЎВАЮЦЬ КАНТАКТЫ З КАЛЕГАМІ З ІНШЫХ КРАІН

**Дэлегацыя Нацыянальнага сходу Беларусі вярнулася з Оксфарда (Вялікабрытанія), дзе прымала ўдзел у рабоце семінара парламентарыяў і вучоных.**

Семінар праходзіў пад эгідай Міжпарламенцкага саюза і пры актыўным садзейнічанні Цэнтра універсітэта Гуля па вывучэнню заканадаўства. Узначальваў беларускую дэлегацыю намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах і сувязях з СНД Аляксандр Шпілеўскі. Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу прадстаўляў член Пастаяннай камісіі па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву Анатоль Рубанік.

Як адзначыў у эксклюзіўным інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА Аляксандр Шпілеўскі, у рабоце семінара ўдзельнічалі прадстаўнікі Вялікабрытаніі, ЗША, Ізраіля, Марока, Індыі, Егіпта, Балгарыі і іншых краін. Семінар, паводле яго слоў, быў карысны, у першую чаргу, тым, што даў магчымасць пазнаёміцца з прававым становішчам парламентарыяў у гэтых краінах і іх узаемаадносінамі з усімі галінамі ўлады. Акрамя таго, шырока абмяркоўваліся пытанні, якія датычаць ролі ўпаўнаважанага па правах чалавека, а таксама прадстаўніцтва жанчын у заканадаўчай галіне ўлады. Удзельнікам семінара была прадастаўлена магчымасць азнаёміцца з парламенцкай сістэмай Вялікабрытаніі. У сваю чаргу члены беларускай дэлегацыі расказалі сваім калегам з іншых краін аб рэальнай сітуацыі ў рэспубліцы.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## НЕВЯДОМЫЯ АДДАЮЦЬ ПЕРАВАГУ НАРКАЎТРЫМЛІВАЮЧЫМ ПРЭПАРАТАМ

Зладзеям без перашкод удалося абрабаваць фельчарска-акушэрскі пункт ў Чэпелях, што ў Шчучынскім раёне. Прычым, нахабнічаць незнаёмцы не сталі: вынеслі толькі наркаўтрымліваючыя рэчывы. Астатняе, паводле папярэдняй інфармацыі, засталося на месцы. Карэспандэнту газеты ўдакладнілі ў МУС, што праніклі злачынцы ў фельчарска-акушэрскі пункт праз акно — выставілі шыбу. У «актыве» невядомых аказалася 115 ампул наркаўтрымліваючых медыцынскіх прэпаратаў. Зусім не выключана, што рабаўнікі акажуцца аматарамі дурману.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## Тры пытанні да чытача

***Браніслаў ЗУБКОЎСКІ,***
***дырэктар Светлаборскай сярэдняй школы Мінскай вобласці:***

# «Паболей увагі асветніцтву...»

**1. Чаму вы выпісваеце «Звязду»?**

— З-за яе памяркоўнасці. Выпісваю, скажам так, і з-за традыцыйнасці. Я перакананы, што «Звязда» не шарахаецца, паслядоўная ў выкладанні тых альбо іншых поглядаў.

**2. Што падабаецца ў «Звяздзе»?**

— Прыемна, што ў газеце часта ўздымаюцца праблемы школы. Вы даяце каментарый па любых пытаннях. Сапраўды, ад стану школы залежыць тое, якой будзе наша будучыня. Заўсёды з цікавасцю чытаю каментарыі, якія дае газеце міністр адукацыі.

**3. Што не падабаецца ў «Звяздзе»?**

— Раней вы часцей звярталіся да пытанняў гісторыі, да пытанняў беларускай нацыянальнай культуры. Зараз матэрыялаў на гэтую тэму паменела. Вельмі шкада. Усё ж паболей увагі надавайце асветніцтву. Мяркуйце самі, большасць людзей выпісвае зараз адну газету. Таму не бойцеся часам выконваць не ўласцівыя, здавалася б, газеце функцыі — адукоўвайце людзей, дапамагайце ім разабрацца ў саміх сабе, выхоўвайце свядомага чытача.

**Запісаў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## КАМЕНТАРЫЙ АБ ПАРАДКУ ІНДЭКСАЦЫІ ДАХОДАЎ НАСЕЛЬНІЦТВА ЗА ЛІПЕНЬ 1998 г.

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за ліпень 1998 г. Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь паведамляе, што паколькі індэкс спажывецкіх цэн у ліпені, вылічаны нарастаючым вынікам да мая гэтага года, перавысіў пяціпрацэнтны парог і склаў 105,6 працэнта, грашовыя даходы насельніцтва за ліпень, што атрымліваюцца з бюджэтных крыніц (сацыяльныя пенсіі, дапамогі, стыпендыі, заработная плата і грашовае забеспячэня), а таксама сумы кампенсацыі ўрону, нанесенага калецтвам або іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў, індэксуюцца на 20,6 працэнта, вылічаных да студзеня гэтага года.

Індэксацыя ажыццяўляецца з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт прыросту спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

у межах 500.000 рублёў — 1 працэнт,

ад 500.001 да 1.000.000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходу, якая перавышае 1.000.000 рублёў, не індэксуецца.

Грашовыя кампенсацыі, прадугледжаныя пастановамі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 05.01.1995 г. № 7 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і матэрыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян» і ад 28.02.1995 г. № 106 «Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва», не індэксуюцца.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца на падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі).

## ГРЫБЫ — НЕ ЛАСУНАК, А САПРАЎДНАЯ ЗБРОЯ

**Нягледзячы на той факт, што да заканчэння грыбнога сезону застаецца яшчэ, па меншай меры, некалькі месяцаў, спіс яго ахвяр уражвае і прымушае задумацца, а ці варта дзеля задавальнення ўласнага страўніка рызыкаваць жыццём?**

Як паведамілі «Звяздзе» ў аддзеле гігіены харчавання Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (РЦГЭ), па стану на 17 жніўня ў іх было зарэгістравана 25 выпадкаў атручэнняў грыбамі з 33 пацярпеўшымі. Для пяці чалавек ласаванне лясньмі дарамі завяршылася лятальным зыходам. У ліку памерлых ёсць і двое дзяцей пяці — і васьмі год, якіх урачам выратаваць не ўдалося.

У трох з пяці выпадкаў прычынай смяротнага атручэння, як мяркуецца, сталі бледныя паганкі, у адным выпадку — страчкі, і ў апошнім — неядомы грыб не быў устаноўлены. Па-ранейшаму, асноўны «грыбны ўдар» трымаюць Гродзенская і Гомельская вобласці.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## БЕЛАРУСКІЯ ВУЧОНЫЯ ХОЧУЦЬ УТАЙМАВАЦЬ ЭНЕРГІЮ ВЕТРУ

**Паспяховая практыка выкарыстання энергіі ветру ў многіх замежных краінах падказала шляхі яе прымянення і ў Беларусі.**

Напрыклад, ветраэнергетычныя ўстаноўкі (ВЭУ) у розных рэгіёнах рэспублікі могуць беспярапынна працаваць да 8 месяцаў у год. Па разліках вучоных, найбольш эканамічнымі ў рабоце з'яўляюцца ВЭУ магутнасцю звыш 100 кілават пры ўмове падключэння іх да агульнай дзяржаўнай энергасеткі.

Вучоныя ўжо склалі карту ветравых патокаў па ўсіх абласцях рэспублікі. Яны не страчваюць надзеі выкарыстоўваць экалагічна чысты энергетычны патэнцыял у эканоміцы беларускай дзяржавы.

**Галіна ШАРАЕВА,**
**БЕЛТА.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

У адным з лонданскіх шпіталяў упершыню апрабавана новая вакцына, якая папярэджвае з'яўленне карыеса. Гель, прыгатаваны на аснове выцяжкі з лістоў тытуню, неабходна двойчы ў тыдзень на працягу ўсяго жыцця наносіць на паверхню зубоў.

**«Мегаполіс-экспрэс»**

*У апошні час у колах венесуэльскай студэнцкай моладзі характар павальнага захаплення набыла прастытуцыя. Дзяўчаты і юнакі з забяспечаных сем'яў ідуць на гэта ў імкненні хутка зарабіць грошы. Для такой моладзі прастытуцыя — бізнес, які дазваляе не залежыць ад бацькоў, апранацца ў модных магазінах і праводзіць канікулы на дарагіх курортах.*

*Паслугі маладзенькіх дзяўчат каштуюць у Каракасе 80 долараў за гадзіну пры мінімальнай зарплаце ў 200 долараў ЗША ў месяц. Прастытуткі з ліку студэнтак і маладзенькіх сакратарак не выходзяць на вуліцы і не сядзяць у барах, чакаючы кліентаў, — яны выкарыстоўваюць сучасную тэхналогію: сотавыя тэлефоны, сетку Інтэрнет, электронную пошту.*

**ІТАР—ТАСС**

Ні ў аднаго з сямі відаў пангалінаў (яшчураў), якія жывуць у лясах Паўднёвай Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі, у роце няма зубоў. А як жа яны перажоўваюць ежу?

А пангалін яе і не перажоўвае. Ён харчуецца ў асноўным тэрмітамі і мурашкамі. Маючы вельмі доўгі са складаным выкідваючым прыстасаваннем язык, жывёла можа імгненна выпусціць яго з роту на 34—40 сантыметраў. Тэрміты або мурашкі трапляюць у страўнік, выслаены арагавеўшым эпітэліем. У поласць страўніка ўдаецца асаблівая складка з рогавымі зубамі. Вось дзе, аказваецца, у пангаліна размешчаны зубы.

**«Труд»**

**Відаць, ці не самая вялікая нечаканасць цяперашняга чэмпіяната Беларусі па футболу — больш чым упэўненае лідэрства ў ім магілёўскага «Дняпра-Трансмаша». Можна, вядома, казаць, што камандзе проста неверагодна шанцуе, што магіляўчане (калі ўлічыць становішча ў нашым футболе) здолелі «злавіць рыбку ў мутнай вадзе», але факт застаецца фактам: сёння іх адрыў ад бліжэйшага праследвальніка складае ўжо адзінаццаць ачкоў. Пасля сустрэчы з бабруйскай «Белшынай», у якой «Днепр-Трансмаш» здолеў запісаць на свой рахунак пятнаццатую ў чэмпіянаце і адзінаццатую (!) запар перамогу, наш карэспандэнт задаў некалькі пытанняў галоўнаму трэнеру каманды Валерыю СТРАЛЬЦОВУ.**

# Недахоп майстэрства «Днепр-Трансмаш» здольны кампенсаваць ВАЛЯВЫМІ ЯКАСЦЯМІ.

## Прынамсі ў чэмпіянаце Беларусі.

**— У ЧЫМ ФЕНОМЕН «Дняпра»? Здаецца, перад пачаткам сезона каманду пакінула апошняя «зорачка», Аляксандр Чайка, і раптам — такое вось «пераможнае шэсце»...**

— Я б не стаў казаць аб нейкім «феномене». Цяперашні «Днепр -Трансмаш» па-сутнасці «збіраўся на працягу 3-5 гадоў, і сёння можна сцвярджаць, што наша галоўная сіла ў тым, што мы — гэта каманда аднадумцаў. Таму калі нават хлопцам калі-нікалі не хапае майстэрства, мы здольны кампенсаваць усе хібы валявымі якасцямі.

**— Тым не менш майстэрства ёсць майстэрства. І, напэўна, магіляўчане яшчэ доўга будуць узгадваць як кашмарны сон еўракубкавае рандэву сваёй каманды з «Дэбрэцэнам». 2:4 і 0:6 у сустрэчах з другаразрадным венгерскім клубам — згадзіцеся, таксама паказчык...**

— Трэба прызнацца шчыра хаця, вядома, і не на такі лік, але мы проста аказаліся слабейшыя за венграў. І, калі ўзгадаць выступленні ў Еўропе іншых беларускіх клубаў, на жаль, не толькі мы.

**— Але перамог заўсёды хочацца менавіта зараз. Апошнім часам робяцца спробы нейкім чынам «рэаніміраваць» беларускі футбол і, у прыватнасці, абвешчана аб намеры стварыць «суперклуб» на базе мінскага «Дынама». Не крыўдна?**

— Мінск вельмі вялікі горад, у якім някепска працуюць дзіцячыя футбольныя школы, ёсць прыстойны выбар ігракоў — якія ж тут могуць быць крыўды?

**— Самае балючае на сёння пытанне: ці застанецца Беларусь у сусветным футболе?**

— Я думаю, у рэшце рэшт усё павінна быць добра. Тое, што ў нашым футболе трэба нешта мяняць, відавочна для ўсіх, і УЕФА тут не выключэнне. Адно, што змены гэтыя павінны ісці не аднекуль «зверху», а непасрэдна ад самой Федэрацыі футбола.

**— У такім разе, схема рэформ «ад Валерыя Стральцова»?**

— Паўсюль у свеце заснавальнікамі нацыянальных Федэрацый футбола з'яўляюцца клубы і рэгіянальныя федэрацыі, у нас — чамусьці прыватныя асобы. Вынік? Знікаюць каманды — усе робяць выгляд, што нічога не адбываецца, гіне дзіцячы футбол — нікому як быццам няма справы...

Таму сёння нам найперш патрэбна заканадаўства, якое адпавядае інтарэсам клубаў і мясцовага футбола, патрэбны элементарны парадак, у тым ліку што датычыцца правядзення чэмпіяната ў вышэйшай лізе. Асабіста я ўпэўнены, што аптымальная колькасць каманд у ёй — усё ж чатырнаццаць.

**— Аднак вернемся да падзей бліжэйшых: «Днепр-Трансмаш» — чэмпіён?**

— Давайце пачакаем з высновамі. У нас маладая каманда, наперадзе яшчэ шмат гульняў, так што ўсё можа здарыцца. Таму можаце быць упэўнены толькі ў тым, што сёлета мы зробім усё магчымае і немагчымае, каб захаваць першае месца.

**Гутарыў Сяргей ГРЫБ.**

## «ДНЕПР» НАБЛІЖАЕЦЦА ДА «ЗОЛАТА»

**Пасля матчаў 9 тура футбольнага чэмпіянату Беларусі пазіцыі лідэраў засталіся непахіснымі.**

Магілёўскі «Днепр-Трансмаш» сваю чарговую перамогу атрымаў дома над бабруйскай «Белшынай». Для выйгрышу магіляўчанам хапіла аднаго дакладнага ўдару. У падапечных Валерыя Стральцова набрана 46 ачкоў і, на думку спецыялістаў, наўрад ці хто з сапернікаў зможа скласці ім сур'ёзную канкурэнцыю ў барацьбе за залатыя медалі.

Бліжэйшы праследавацель лідэра — барысаўскі БАТЭ пацвердзіў свае прэтэнзіі на месца ў прызавой тройцы. Барысаўчане на радасць сваіх балельшчыкаў у выдатным стылі перайгралі леташніх чэмпіёнаў краіны — мінскіх дынамаўцаў — з лікам 3:0. У актыве БАТЭ цяпер 35 ачкоў.

Вынікі астатніх матчаў: «Тарпеда-Кадзіна» (Магілёў) — «Нёман» (Гродна) — 0:0, «Дынама» (Брэст) — «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) — 1:0, «Тарпеда» (Мінск) — «Славія» (Мазыр) — 0:0, «Шахцер» (Салігорск) — «Камунальнік» (Слонім) — 2:0.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ, БЕЛТА.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

Летась сапёры рэспублікі 272 разы выязджалі на месца па сігналу **«аб'ект замініраваны»** і толькі ў 13 выпадках ім сапраўды прыйшлося сутыкнуцца з выбуховымі прыстасаваннямі.

Па даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, ужо **больш трэці насельніцтва планеты** інфіцыраваны вірусам гепатыта В і 5 працэнтаў з іх — гэта звыш 350 мільёнаў чалавек — вірусаносьбіты, якія ўяўляюць небяспеку для акружаючых.

Асноўная частка **цэзію** пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі **выпала на тры краіны** — Беларусь, Украіну, Расію — 68 працэнтаў ад агульнай колькасці.

*САЛОН ПРЫГАЖОСЦІ*

# СКУРА ТАКСАМА ЛЮБІЦЬ... «АДПАЧЫНАК»

**Прыгожы знешні выгляд дапамагае набыць унутраную ўпэўненасць, аптымізм, без якіх немагчыма пражыць у наш складаны час. Нават зусім нязначныя захворванні нервовай сістэмы, страўнікава- кішачнага тракта немінуча адлюстроўваюцца на выглядзе скуры. Неабходна абараняць яе крэмам ад шкоднага ўздзеяння сонечных промняў, ветру, холаду. Прывычка грымаснічаць паскарае ўтварэнне маршчын. Да гэтага вядзе і злоўжыванне касметычнымі сродкамі, асабліва пудрай, а таксама гарачай вадой. Дрэнна адбіваюцца на стане скуры стомленасць, бяссонніца.**

Перш чым датыкацца да твару, старанна вымыйце рукі (на працягу дня старайцеся як мага менш мацаць рукамі твар). Для таго каб зняць дзённы грым, крэм, пудру, памаду, туш, трэба іх «растапіць», г. зн. накласці на твар слой крэму ці касметычнага малачка. Ні ў якім разе не ўцірайце крэм, а толькі злёгку размажце. Праз 5 хвілін ватай асцярожна пратрыце твар. Грым зняты. Нават калі днём вы ўжываеце мала касметыкі, усё роўна перад сном абавязкова ачысціце твар.

Пры сухой скуры твару мыла добра замяняе пшанічнае вотруб'е. 1 сталовую лыжку мукі ці вотруб'я развесці цёплай вадой да кашыцы і нанесці на твар на 5—10 хвілін.

Раім ачышчаць твар касметычным малачком, якое можна прыгатаваць самім. У 300 мл кіпеню ўліце 100 мл малака. Сумесь астудзіце і пачакайце, пакуль утворыцца асадак. Празрыстую частку сумесі зліце і выкарыстоўвайце для праціранння твару і шыі.

Добрым сродкам для ачысткі ўсіх тыпаў скуры з'яўляецца цёплы раслінны алей. 1-2 чайныя лыжкі алею шчодра нанесці ватным тампонам на твар. Праз 2-3 хвіліны зняць ватай, змочанай у цёплым чаі ці падсоленай вадзе.

Звычайны альяс, які расце ў вас на падаконніку, таксама можа стаць вашым памочнікам. Алоэ — эфектыўны біястымулятар. Спачатку вазон вытрымліваюць у цёмным халаднаватым месцы два тыдні. Увечары і раніцай добра вымытую скуру твару і шыі змазваць сокам ці разрэзаным лістом альясу. Калі твар будзе добра ўвільготнены, карысна памасажаваць скуру лёгкім пастукваннем пальцаў. Гэта зойме хвіліны дзве. Пашчыпванне, якое вы можаце адчуць спачатку, хутка пройдзе. Вымыўшы твар, нанясіце крэм, які адпавядае тыпу вашай скуры. Рабіце так праз кожныя два дні на працягу паўмесяца.

Праверанам сродкам ад маршчын з'яўляюцца так званыя «танізуючыя вадкасці», у састаў якіх уваходзяць лекавыя травы, фруктовы сок і віно хатняга прыгатавання (для сухой скуры) і гарэлка ці спірт (для тлустай). Вось адзін з рэцэптаў: 1 л віна або гарэлкі заліць 20 г кропу, 30 г хвашчу, 15 г дубовай кары, 15 г мяты, 15 г крываўніку і 15 г садовай фіялкі. Праз два тыдні атрыманы настой працадзіць і абціраць ім твар ватным тампонам раніцай і ўвечары.

Лічыцца карысным таксама праціраць твар і шыю адварам з ліпавага цвету з дабаўленнем мёду. Адвар прыгатуйце наступным чынам: вазьміце паўшклянкі кіпеню і кіньце туды жменю ліпавага цвету. Накрыйце шклянку талеркай і пачакайце 15 хвілін, затым дадайце на канцы чайнай лыжкі мёду — і састаў прыгатаваны. Такі адвар робіць скуру больш пругкай і мяккай, папярэджвае лушчэнне. Добра змачыце скуру гэтым адварам (не забудзьцеся пра шыю) і пасядзіце так некалькі хвілін.

Асобна трэба сказаць пра падбародак. Калі ў вас намеціліся прыметы з'яўлення другога падбародка, тэрмінова пачынайце з ім барацьбу. 1-2 разы на дзень пастуквайце скуру падбародка тыльным бокам пальцаў (левай рукой справа налева, затым правай рукой злева направа). Можна выкарыстаць для гэтага ручнік або сурвэтку. Змачыць сярэдзіну ручніка ў солевым растворы (1 ч. лыжка на шклянку вады), скласці папалам і, трымаючы за канцы, то нацягваць, то паслабляць яго.

Не хвалюйцеся, калі скура шыі становіцца крыху друзлай. Гэта можна паправіць. Вы вернеце ёй пругкасць, калі 2-3 разы на тыдзень, але толькі рэгулярна, будзеце праціраць шыю любым раслінным алеем (лепш, канешне, аліўкавым). Затым злёгку намачыць жменю солі і кругавымі рухамі ад ключыцы да падбародка працерці шыю да лёгкага пачырванення. А зараз — гарачыя кампрэсы! Намачыце сурвэтку (ці марлю ў некалькі слаёў) у малацэ, напалову разведзенага гарачай вадой, і прыкладзіце да шыі. Паўтарыце так некалькі разоў. І ў канцы апаласніце шыю халоднай вадой, змажце крэмам.

Не раім вам ужываць крэмы штодня. Час ад часу дайце скуры адпачыць, таму што яна таксама павінна дыхаць порамі і выдзяляць натуральны тлушч.

Памятайце таксама, што шкодна наогул не карыстацца крэмамі, але і вельмі злоўжываць імі — не на карысць.

**Рубрыку вядзе Вікторыя КЛЯНОВІК.**

## КАЛІ НАРАДЗІЛАСЯ ЖЫЦЦЁ НА ЗЯМЛІ: НОВЫЯ АДКРЫЦЦІ

Старажытныя прыметы жыцця на Зямлі выявілі нядаўна амерыканскія вучоныя на буйнейшым у свеце востраве Грэнландыя. У выніку даследчых работ былі знойдзены сляды вугляродных злучэнняў, узрост якіх 3,5 млрд. гадоў.

Знаходка стала сапраўднай навуковай сенсацыяй, паколькі да гэтагая часу сляды аналагічных вугляродных злучэнняў былі «маладзей» на 300—400 млн. гадоў. Прабіўшы свідравіну, вучоныя «наткнуліся» на адзнакі жыцця на такой глыбіні, дзе тэмпература грунту дасягае 500 градусаў, а ціск складае 5000 атмасфер. Эксперты лічаць, што знойдзеныя сляды аднаклетачных мікраарганізмаў, якія некалі жылі на дне акіяна, у працэсе эвалюцыі распаліся на кальцый і магній.

**Падрыхтавала Вікторыя КЛЯНОВІК.**

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

- **18 жніўня 1227 года** памёр знакаміты палкаводзец Чынгіз-хан, на чале з якім манголы заваявалі Кітай і Сярэднюю Азію.
- **490 гадоў назад, у 1508 годзе**, з'явіліся першыя летапісныя зводкі пра горад Смалявічы.
- **У гэты дзень у 1750 годзе** нарадзіўся Антоніо Сальеры, італьянскі кампазітар, аўтар шматлікіх опер. Жыў і выкладаў у Вене. Яго вучнямі былі Бетховен, Шуберт, Ліст. Легенда аб атручэнні ім Моцарта, выкарыстаная Пушкіным у трагедыі «Моцарт і Сальеры», не мае пад сабой рэальных падстаў.
- **18 жніўня 1797 года** з заключэння ў Петрапаўлаўскай крэпасці быў вызвалены Тадэвуш Касцюшка, які вярнуўся ў Злучаныя Штаты. Кангрэс ЗША выплаціў яму жалаванне і назначыў пенсію як удзельніку вайны за незалежнасць Штатаў.
- **У гэты дзень у 1830 годзе** з'явіўся на свет імператар Аўстра-Венгрыі Франц-Іосіф.
- **18 жніўня 1850 года** памёр Анарэ дэ Бальзак, славуты французскі пісьменнік, аўтар эпапеі «Чалавечая камедыя», якая складаецца з 90 раманаў і апавяданняў.
- **18 жніўня 1991 года** ў СССР групай высокапастаўленых асобаў (віцэ-прэзідэнт Янаеў, міністр абароны Язаў, прэм'ер-міністр Паўлаў, міністр унутраных спраў Пуга і інш.) была ўчынена спроба дзяржаўнага перавароту. Аб'яўлялася, што ў краіне ўводзіцца надзвычайнае становішча тэрмінам на шэсць месяцаў, забараняліся мітынгі, забастоўкі, вулічныя шэсці. Усё гэта, на думку кіраўніцтва ГКЧП, павінна было спыніць хаос і анархію, якія «пагражалі самому існаванню Савецкага Саюза».

## Дзесьці на белым свеце

***Усім ворагам Тайланда прадастаўляецца выдатная магчымасць разабрацца з непрыяцелем. Справа ў тым, што, па некаторых звестках, больш як сто тысяч тайландскіх салдат у бліжэйшы час адправяцца ў водпуск.***

Неаплачваемыя водпускі тайландскім ваякам зваліліся на галаву з-за таго, што ў казне закончыліся сродкі на іх утрыманне.

Міжнароны валютны фонд прадаставіў гэтай азіяцкай краіне крэдыт на аздараўленне ўзрушанай нядаўнім крызісам эканомікі. Для таго, каб крэдыт вярнуць, у краіне вырашылі «зацягнуць паясы» многім ведамствам, у тым ліку і ваеннаму. Ну, а армія, вядома, не стала звальняць генералаў, а знайшла геніяльны па прастаце ход — адправіць радавых у водпуск.

Ттрэба думаць, краіну будуць абараняць добраахвотнікі.

## Цікава

***Амерыканскі даследчык Хектар Карона нядаўна высветліў, што дэльфіны ўмеюць спяваць.***

Пры запаволеным узнаўленні выдаваемыя імі гукі часта аказваюцца мелодыямі самых апошніх шлягераў. Перавагу гэтыя загадкавыя жыхары акіяна аддаюць песням Мэрай Кэры і Браяна Адамса. Карона лічыць, што дэльфіны падхопліваюць модныя матыўчыкі, калі праплываюць міма пляжаў ці прагулачных яхтаў.

## Неверагоднае, загадкавае

***Як вядома, баба-яга лятала або на мятле або ў ступе. Менавіта апошнюю ў якасці лятаючага апарата выбраў для свайго падарожжа з поўначы Нігерыі ў сталіцу 68-гадовы вядзьмак Мгнанга Банама.***

Аднак яго палёт закончыўся няўдачна. Ідучы на пасадку у сталічным парку, састарэлы пілот «не справіўся з кіраваннем» і разбіўся. На шчасце, не насмерць. Зараз нігерыйскі «баба-яга» знаходзіцца на лячэнні ў адной з клінік Лагаса. Па словах самога ведзьмака, прычынай няўдачнай пасадкі паслужылі яго сталыя гады. Журналістам ён заявіў, што ў такім узросце лятаць па паветры небяспечна.

Але самае цікавае заключаецца не ў прызнаннях няўдалага ведзьмака-пілота і нават не ў тым, што ён не прайшоў перад вылетам медкамісію. Сталічная паліцыя на поўным сур'ёзе пацвердзіла той факт, што вясковы жыхар Мгнанга Банама сапраўды ўпаў у сталічны парк з неба, а разам з ім «прызямліліся» і абломкі драўлянай ступы.

Больш таго, на паліцэйскі запыт, накіраваны мясцовым органам улады, прэфект адказаў, што напярэдадні вечарам землякі Банама бачылі ведзьмака каля яго ўласнай хаціны, якая стаіць на ўскраіне вёскі, размешчанай больш чым за тысячу кіламетраў ад сталічнага Лагаса.

## І так бывае

***Відаць, жыхар індыйскага горада Нью-Дэлі вельмі нерваваўся, развітваючыся з халасцяцкім жыццём.***

Усю ноч напярэдадні ўрачыстай цырымоніі заключэння шлюбу ён беспрабудна піў і ў выніку з'явіўся на яе ў такім стане, што няшчасная нявеста вымушана была выклікаць паліцыю. Калі на жаніха надзявалі наручнікі, ён спрабаваў біцца і асыпаў прысутных самай адборнай лаянкай адразу на хіндзі і англійскай.

Бацькі нявесты вымушаны былі аб'явіць гасцям, што вяселле адкладваецца на няпэўны час, але тут адзін знаходлівы сусед прапанаваў заплаканай і гатовай да абрада нявесце руку і сэрца. Тая, не вагаючыся, згадзілася — не прападаць жа пачастунку. Вяселле сыгралі шумна і весела, а праверазелага жаніха выпусцілі з паліцэйскага ўчастка толькі пад раніцу.

## Анекдот

*Вяртаючыся з гасцей, жонка кажа мужу:*

*— Мала таго, што ты заснуў, калі гаспадыня спявала арыю з оперы, але навошта было казаць: «Выпусціце сабаку» — калі яна брала верхняе «сі».*

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 4913.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12